

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 21 красавіка 1989 г. № 16 (3478) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


**Няхай жыве і развіваецца марксісцка-ленінскае вучэнне — ідэйная аснова рэвалюцыйнага абнаўлення сацыялізму!**

*(З Заклікаў ЦК КПСС да 1 Мая 1989 года)*



**Уладзімір Ільіч ЛЕНІН.**
*Да 119-й гадавіны з дня нараджэння.*

Фота 1920 года.

## СУСТРЭЧА Ў ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

18 красавіка ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета СССР адбылася сустрэча Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачова з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. У сустрэчы прынялі ўдзел член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС В. А. Мядзведзеў і кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР А. І. Лук'янаў. Паведамленне аб выніках выбарчай кампаніі, аб некаторых пытаннях падрыхтоўчай работы ў сувязі з маючымі адбыцца З'ездам народных дэпутатаў СССР і першай сесіяй Вярхоўнага Савета СССР зрабіў А. І. Лук'янаў.

На сустрэчы выступіў М. С. Гарбачоў.

(ТАСС).

## ПІСЬМЕННІКІ СУСТРЭЛІСЯ З ГРАМАДАЗНАЎЦАМІ

У Інстытуце павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук адбыўся «круглы стол» на тэму «Мастацкая літаратура і публіцыстыка і праблемы гуманітарнай адукацыі на сучасным этапе». Для ўдзелу ў дыскусіі былі запрошаны пісьменнікі, супрацоўнікі літаратурных выданняў У. Гніламёдаў, А. Вярцінскі, Г. Далідовіч, В. Гігевіч, Б. Сачанка, В. Тарас. Яе пачаў уступным словам доктар філасофскіх навук, прафесар У. Сімянкоў. У размове прынялі ўдзел дырэктар інстытута В. Кузьмянкоў, грамадазнаўцы Р. Міронччык, Л. Мусіч, І. Сярова і інш. Дыскусія насіла часам вострапалемічны характар і не абмяжоўвалася загадзя акрэсленай тэмай. Закраналіся надзённыя пытанні сённяшняга культурнага і ідэалагічнага жыцця рэспублікі. У выступленнях і запісках з залы адзначаліся асобныя публікацыі «ЛіМа», у прыватнасці, артыкулы У. Арлова, Н. Гілевіча, Г. Далідовіча, Б. Сачанкі, выказвалася пажаданне, каб штотыднёвік паслядоўна вёў свае рубрыкі, больш грунтоўна асвятляў закранутыя раней і новыя тэмы, друкаваў альтэрнатыўныя матэрыялы і г. д.

НАШ КАР.

## УВАГУ — ТВОРЧАСЦІ

На чарговым пасяджэнні сакратарыята СП БССР абмеркавана пытанне актывізацыі дзейнасці творчых секцый.

Са справаздачамі выступілі старшыні секцыі прозы В. Адамчык і літаратуры для дзяцей і юнацтва А. Вольскі. Найбольш істотныя вынікі, як засведчылі прамоўцы, дасягнуты ў рабоце з маладымі літаратарамі. Многія з іх пасля абмеркавання першых кніг былі рэкамендаваны для прыёму ў Саюз пісьменнікаў БССР.

Цікавым і змястоўным было выязное пасяджэнне бюро секцыі прозы на Гродзеншчыне з нагоды юбілею К. Каліноўскага, а таксама абмеркаванне гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы ў беларускай літаратуры сумесна з Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Добры грамадскі рэзананс атрымала гутарка за «круглым сталом» «Беларуская мова ў дзіцячым садзе», якую наладзіла секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва.

Аднак час перабудовы вымагае пошуку новых форм секцыйнай работы. На вялікі жаль, прыкладаў наватарскага падыходу да праблем творчасці пісьменніка і ў секцыі прозы, і ў секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва не шмат. Ці ж не гэтым тлумачыцца той факт, што на пасяджэнні секцыі збіраецца да крыўднага мала пісьменнікаў.

З шэрагам цікавых прапаноў — як палепшыць работу секцый — выступілі П. Місько, У. Машкоў, сакратар праўлення СП БССР А. Жук і іншыя... Слушна прагучала думка аб неабходнасці амаладзіць кіраўніцтва секцыі, гэта надасць новы імпульс іх дзейнасці.

Вынікі гаворкі падвёў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч. У прыватнасці, ён адзначыў, што работу творчых секцый трэба наблізіць да надзённых задач пісьменніцкай арганізацыі. Толькі шырокае абмеркаванне на пасяджэннях секцый актуальных пытанняў літаратурнага і грамадскага жыцця рэспублікі дасць жаданы плён, дапаможа актывізаваць творчую працу.

Я. ІВАНОЎ.

## ЛЕНІН — ПА-БЕЛАРУСКУ

**Карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыць з загадчыкам сектара перакладу Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ М. М. ЖЫЛІНСКІМ**

Важкія тамы ў цёмна-зялёнай супервокладцы, здаецца, толькі што сышлі з друкарскага станка і яшчэ пахнуць фарбай. На тамах імя Уладзіміра Ільіча Леніна. Гартаю кнігу за кнігай. Знаёмыя яшчэ са студэнцкіх гадоў ленінскія працы: «Што такое «сябры народа» і як яны змагаюцца супраць сацыял - дэмакратаў?», «Развіццё капіталізму ў Расіі», «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм», «Філасофскія сшыткі» і г. д.

— Пакуль што выдадзены шэсць тамоў 10-томнага Збору выбраных твораў У. І. Леніна на беларускай мове,—расказвае Мікалай Міхайлавіч Жылінскі. — Выданне будзе завершана ў 1990 годзе да 120-годдзя з дня нараджэння Ільіча.

— Відаць, гісторыя беларускай Лeнініяны бярэ свой пачатак з першых гадоў Савецкай улады?

— Яшчэ раней. Першыя асобныя выданні ленінскіх твораў на тэрыторыі Беларусі з'явіліся яшчэ ў 1904 годзе. Менавіта тады Палескі камітэт РСДРП падпольна выдаў тыражом 3.500 экземпляраў два

(Працяг на стар. 2—3).

# «Вяснянка»

**16 красавіка ў цэнтры Мінска на берагах Свіслачы адбылося гарадское свята сустрэчы вясны — «Вяснянка». Свята пачалося ў купалаўскім парку, дзе сабралася шмат людзей на штогоднюю «Выстаўку аднаго дня», а потым самадзейныя артысты з Гомельшчыны (з Буда-Кашалёўскага і Веткаўскага раёнаў) і мінскія «талакоўцы» разам з гледачамі, што «ўцягнуліся» ў гэтае «сцэнічнае дзеянне», перайшлі ў парк імя М. Горкага. Гучалі традыцыйныя веснавыя песні, у паветра ўзляталі папяровыя птушкі, ладзіліся карагоды.**

**У адпаведнасці з абрадам ролю красуні-вясны выконвала маладая дзяўчына, упрыгожаная зялёнымі галінкамі. Удзельнікі свята спалілі пудзіла зімы як сімвал усіх бед.**

**В. БОГУШ.**



На адкрыцці «Выстаўкі аднаго дня» выступае А. МАРАЧКІН.



Гуканне вясны.



Народнае гулянне ў парку М. Горкага. Фота Ул. КРУКА.

## ВІНШУЕМ!

**За вялікія заслугі ў развіцці беларускага савецкага тэатральнага мастацтва і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў артыстам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ДУБАШЫНСКАМУ Паўлу Піліпавічу і МІЛАВАНАВУ Аўгусту Лазаравічу ганаровае званне народнага артыста Беларускай ССР.**

●

**За заслугі ў развіцці харэаграфічнага мастацтва і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў артысту Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР РАУКУЦЮ Юзафу Антонавічу ганаровае званне заслужанага артыста Беларускай ССР.**

тоўнае выданне мне ўдалося набыць у Маскве, — гаворыць Мікалай Міхайлавіч, працягваючы мне два цяжкія фаліянты. Чытаю на вокладках: «Словарь языка В. И. Ленина». — Тут сабраны найбольш ужываемыя Ільічом словы, — працягвае М. Жылінскі, — што дае магчымасць загадзя папрацаваць над іх перакладам.

Ад выдання да выдання ленінскіх прац удасканальваецца іх пераклад. Мікалай Міхайлавіч называе прыклады моўнай «даводкі» тых або іншых фраз, слоў Леніна. Скажам, раней рускае спалучэнне «барская затея» перакладалася як «панская забава», у новым выданні перакладаецца ўжо як «панская забаўка». Ці словы «тощее молоко» раней перакладаліся як «знятое малако», цяпер як — «адгон малака». Аднойчы паўстала пытанне, — расказвае М. Жылінскі, — як перакласці на беларускую мову рускае слова «временщик». У слоўніках даецца — «фаварыт», «дачаснік», але мы гэтым не задаволіліся і звярнуліся да нашых кансультантаў у Інстытут мовазнаўства АН БССР, дзе прапанавалі гэтыя два словы зліць у адно «фаварыт-дачаснік».

Я цікаўлюся ў М. Жылінскага, каму наогул належыць апошняе слова ў вызначэнні перакладу, хто ставіць тут апошнюю кропку?

**— Пры нашым інстытуце створана тэрміналагічная камісія, у якую ўваходзяць буйныя беларускія філолагі, мовазнаўцы, філосафы, у прыватнасці, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка, акадэмік М. Бірыла, доктар філасофскіх навук Л. Яўменаў, прафесары Л. Шакун і М. Яўневіч і інш.**

— У прэсе даводзілася чытаць, што ў каментарыях да самых апошніх маскоўскіх выданняў прац У. І. Леніна, іншай гісторыка-рэвалюцыйнай літаратуры па-ранейшаму замоўчваюцца імёны многіх актыўных дзеячаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, Савецкай улады, якія былі рэпрэсіраваны ў гады сталінскага тэрору. Спадзяюся, мы, у рэспубліцы, пазбаўляемся такіх «традыцый»?

**— Так, у даведачным матэрыяле, які даецца да 10-томнага Збору твораў У. І. Леніна, які цяпер ажыццяўляецца, дадзены падрабязныя, я лічу, аб'ектыўныя звесткі пра многіх дзеячаў рэвалюцыі, на імёны якіх раней было накладзена жорсткае табу.**

М. Жылінскі расказвае, што ў планах інстытута — 9-томнае выданне на беларускай мове твораў К. Маркса і Ф. Энгельса. Ажыццяўляецца пераклад і выданне выбраных прамоў і артыкулаў М. С. Гарбачова.

— Адна з прыкмет цяперашняй імклівай плыні жыцця, — кажа ў заканчэнне нашай гутаркі М. Жылінскі, — усплёск цікавасці савецкіх людзей да ленінскіх твораў, іх сучаснага прачытання. Менавіта ў ленінскай думцы мы шукаем адказу на многія пытанні.

**Гутарку вёў М. ЗАМСКІ.**

*Па старонках друку*

# «Альтэрнатывы няма»

**«Беларусь мае ўсе падставы для таго, каб адрадзіць беларускую мову на сваёй тэрыторыі, каб мець сферу ўжывання мовы хоць бы суадносна з доляй беларусаў, якія пражываюць у рэспубліцы.**

**Ні навука, ні шматлікія дыскусіі, праведзеныя за апошні час, дакладней, за апошні год, ні нават надзвычай складаная гісторыя гэтай праблемы альтэрнатыўнай пастаноўкі пытання нам не даюць...**

**Ацэньваючы многія суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары, якія прывялі, па сутнасці, да заняпаду беларускай мовы, нельга яшчэ раз не падкрэсліць ролю ў гэтай справе прынятага ў 50-я гады Закона аб добраахвотнасці выбару мовы навучання ў школах рэспублікі. Гэта трагічная памылка. Беларуская мова стала адзіным школьным прадметам, вывучэнне якога поўнасцю залежала ад жадання вучняў і іх бацькоў.**

**Неабходна адзначыць, што ў апошнія гады Міністэрствам адукацыі рэспублікі прыняты шэраг мер для выпраўлення становішча з беларускай мовай. Так, на сённяшні дзень мы ўжо практычна не маем праблемы вызвалення вучняў ад вывучэння беларускай мовы. Але гэта ўсё ж больш так званы касметычны рамонт, які не можа вырашыць цалкам праблему...»**

Хто гэта гаворыць? Не ведаю, як хто, а я, прызнаюся, не адразу паверыў сваім вачам, калі пабачыў, што думкі гэтыя належаць міністру народнай адукацыі рэспублікі. Ды і цяжка было паверыць. Доўгі час мы чулі з вуснаў міністра (колішняга, вядома) і ягоных намеснікаў нешта зусім іншае. Нават ужо і ў час перабудовы, літаральна нейкі год назад, калі паўсюль у рэспубліцы з трывогаю гаварылі пра ненармальнасць становішча, у якім апынулася наша родная мова, *у міністэрстве вельмі нямногія* падзялялі гэтую ўсеагульную трывогу. Чыноўнікі ад народнай асветы не бачылі шляхоў для кардынальнага выпраўлення становішча, прапаноўвалі ўсяго толькі сапраўды чыста касметычныя меры.

Ды час не стаіць на месцы. Перабудова дзейнічае, захоплівае ўсё новыя і новыя сферы нашага жыцця. Здаецца, дайшла яна нарэшце і да нашай народнай адукацыі. Прынамсі, згаданыя вышэй словы міністра народнай адукацыі рэспублікі М. І. Дзямчука сведчаць пра гэта. А ўзяты яны з публікацыі «Настаўніцкай газеты» за 8 красавіка г. г. «Альтэрнатывы няма», змешчанай пад рубрыкай «Над чым працуе міністэрства». У гэтай публікацыі Міхаіл Іванавіч дзеліцца з чытачамі газеты сваімі думкамі аб шляхах адраджэння роднай мовы. З гэтай публікацыяй хочацца пазнаёміць і чытачоў «ЛіМа», якія з вялікай заклапочанасцю пісалі і пішуць у рэдакцыю пра лёс, сённяшні стан і будучыню беларускай мовы.

Напачатку М. І. Дзямчук гаворыць пра рэальную сённяшнюю сітуацыю, прыводзіць сумныя лічбы. У рэспубліцы 5442 школы, з іх 3690 (67,8 працэнта) з беларускай, 1726 (31,7 працэнта) з рускай, 26 (0,48 працэнта) — з дзвюма мовамі навучання. У іх займаецца адпаведна 296,3 тысячы (20.6 працэнта), 1186,8 тысячы (77,7 працэнта) і 23,8 тысячы (1,7 працэнта) вучняў. Як відаць, доля вучняў у школах з беларускай мовай навучання вельмі малая і мае тэндэнцыю да паніжэння. За апошнія два дзесяцігоддзі колькасць вучняў сельскіх школ скарацілася з 1 мільёна да 438 тысяч. За гэты час на вёсцы закрыта 5800 школ.

Далей міністр гаворыць:

**«Неабходны кардынальныя меры і намаганні ўсёй рэспублікі. Мы разумеем, аднак, што трэба пачынаць са сферы адукацыі. Яна галоўная ў гэтым пытанні. Неабходны шэраг заканадаўчых мерапрыемстваў — законаў, якія б маглі задаць прынцыпова новы моўны рэжым функцыяніравання навучальных устаноў усіх тыпаў, само сабой зразумела, на карысць узмацнення беларускай мовы.**

**Пэўныя меры міністэрствам прыняты...»**

Якія ж гэта меры? Па-першае, *адкарэкціраваны* планы з тым, каб беларуская мова і літаратура сталі ў школе паўнапраўнымі прадметамі, павялічана колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы (калі ў рускамоўных школах яна вывучалася толькі з трэцяга класа *і на яе адводзілася 4 гадзіны* ў тыдзень, то з новага навучальнага года адводзіцца 14 гадзін). Па-другое, уведзена вывучэнне беларускай мовы ў рускамоўных школах з першага класа. Па-трэцяе, больш паслядоўнай і мэтанакіраванай стала работа па стварэнні школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, факультатываў і г. д. Па-чацвёртае, уведзены выпускныя экзамены па беларускай мове (дыктоўка) за курс няпоўнай сярэдняй школы з рускай мовай навучання, а з беларускай мовай навучання — пераказ. У дзесятым класе беларускамоўных школ уведзена заліковая дыктоўка, з наступнага года дыктоўка па беларускай мове будзе і ў 10-м класе рускамоўных школ. Многа робіцца па стварэнні належнай навучальна-матэрыяльнай базы (у першую чаргу рыхтуюцца варыянтныя падручнікі, метадычныя і дыдактычныя дапаможнікі і г. д.).

**«Было б неправамерным і няправільным, — зазначае пры гэтым М. І. Дзямчук, — абмежавацца толькі мерамі па агульнаадукацыйнай школе. Патрэбны гарантыі прынцыповай неабходнасці ведання беларускай мовы. Таму зроблены наступны крок. У гэтым годзе ўводзяцца ва ўсіх педагагічных інстытутах і на педпатоках універсітэтаў уступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры. Зараз вырашаецца пытанне аб формах правядзення ўступных экзаменаў...»**

Павялічана колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы (з 30 — 50 да 100 — 150) у педВНУ. Мяркуецца з новага навучальнага года перайсці да выкладання на беларускай мове ўсіх гуманітарных і грамадскіх дысцыплін, а таксама некаторых дакладных. З будучага года ўводзіцца абавязковы курс беларускай мовы ў тэхнікумах. У педвучылішчах абавязковым стане экзамен па беларускай мове і літаратуры для абітурыентаў, якія вывучалі беларускую мову ў школе. Праводзіцца работа па адкрыцці беларускамоўных садоў.

**«Пералічаныя меры і шэраг іншых, — падкрэслівае М. І. Дзямчук, — складаюць увогуле праграму дзеяння Міністэрства народнай адукацыі на бліжэйшую перспектыву па стварэнні нацыянальнай школы».**

Пагадзіцеся, што такія высновы ў вуснах міністра гучаць вельмі ж сімптаматычна і своечасова!

Далей Міхаіл Іванавіч гаворыць аб тым, што, на жаль, гэтая праграма рэалізуецца з вялікімі цяжкасцямі, з вялікім, як ён выказваецца, «супрацьстаяннем многіх катэгорый насельніцтва рэспублікі». Адной з прычын гэтага ён лічыць тое, што ў вырашэнне балючай для рэспублікі праблемы слаба ўключыліся кіраўнікі мясцовых і цэнтральных органаў улады, асабліва райкомаў партыі і райвыканкомаў, што наогул у вырашэнне моўнай сітуацыі ў рэспубліцы слаба ўключана *палітычная асветніцкая работа* сярод насельніцтва.

У заключэнне М. І. Дзямчук гаворыць:

**«Неабходна вельмі сур'ёзна пачаць канкрэтную работу па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы па-за школай, бо гэта і ёсць у многім сацыяльныя, палітычныя і эканамічныя гарантыі неабходнасці вывучэння мовы карэннага насельніцтва, і гарантыі не толькі экалогіі мовы і наогул культуры, але і гарантыя іх новай якасці ў нашай шматнацыянальнай дзяржаве.**

**Безумоўна, статус дзяржаўнасці нашай мовы значна дапамог бы ў дасягненні пастаўленых мэт і задач і не толькі ў сферы адукацыі. Таму, думаю, выкажу думку большасці работнікаў нашай сферы, калі скажу, што мова беларуская павінна быць дзяржаўнай».**

За дзяржаўнасць беларускай мовы даўно і дружна выказваюцца лімаўскія чытачы. Думка аб неабходнасці надання ёй такога статуса прагучала ў нядаўніх выступленнях на старонках штотыднёвіка П. Панчанкі і Г. Далідовіча. За такое ж вырашэнне пытання, як вядома, многія нашы партыйныя і савецкія работнікі, навукоўцы, дзеячы літаратуры, культуры і мастацтва, рабочыя, калгаснікі. Адназначна за гэта — і большасць работнікаў сферы народнай адукацыі.

Дык, можа, пытанню аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай пара перастаць быць дыскусійным?

**Наш аглядальнік.**

# З далёкай Кубы

**Госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі быў на мінулым тыдні кубінскі паэт Гільерма Радрыгес Рывера. Ён азнаёміўся з мясцінамі, звязанымі з жыццём і творчай дзейнасцю народнага песняра Янкі Купалы, наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Наш кубінскі сябар меў гутарку ў СП БССР, у якой удзельнічалі Максім Танк, Ніл Гілевіч, Алесь Жук і Аляксей Гардзіцкі. Кубінскі паэт пытаўся пра перабудову, пра нашы літаратурныя выданні, цікавіўся, як Саюз пісьменнікаў дапамагае літаратарам у стварэнні ўмоў для творчай працы.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**



# НОВЫ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ» ЧАКАЕ...

**Здадзены ў друк «Дзень паэзіі-89», а рэдкалегія штогодніка прыступае да падрыхтоўкі наступнай кніжкі. Часу застаецца не так і шмат, таму чакаем ад літаратараў у бліжэйшыя два месяцы арыгінальных твораў. Матэрыялы просім дасылаць на адрас часопіса «Беларусь», складальніку «Дня паэзіі-90» Віктару Шніпу, або ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

**Творы не рэцэнзуюцца і аўтарам па пошце не вяртаюцца.**

**РЭДКАЛЕГІЯ «ДНЯ ПАЭЗІІ-90».**

*Чытач прыйшоў у рэдакцыю*

# «ПЕРАДРУКУЙЦЕ ІНТЭРВ'Ю...»

Спачатку ён пазваніў па тэлефоне.

— Ало! Гэта газета «Літаратура і мастацтва»?

— Так. Слухаем вас.

— Гаворыць Міхееў, з трактарнага завода... Вы не перадрукавалі б інтэрв'ю з Ельцыным?

— ?

— ...Якое нядаўна надрукавала газета «Юрмала». Яно ў мяне ёсць. Называецца «Не імітаваць перабудову—перабудоўвацца». Мы ўсе тут прачыталі, копіі зрабілі... Дык перадрукуеце ці не?

На тым канцы провада пытанне ставілі рубам. Не проста пыталіся—настойвалі. На гэтым — прымоўклі, сумеліся, не знайшліся адразу.

— Гм... Калі інтэрв'ю было надрукавана?

— Не так даўно, 16 сакавіка.

— Ці не позна перадрукоўваць?

— Чаму позна, прайшло ўсяго якіх два тыдні (размова была на пачатку красавіка. — **Рэд.**).

— Мы рэдка практыкуем перадрук... У выключных выпадках...

— Дык гэта якраз і ёсць выключны выпадак... Другія газеты перадрукоўваюць... У гэтым жа нумары «Юрмалы» паведамляецца, што першае іх інтэрв'ю з Б. Ельцыным, апублікаванае ў жніўні 1988 года, перадрукавалі каля 40 друкаваных органаў краіны, у тым ліку маладзёжныя газеты, часопіс АДН «Спадарожнік»...

— Але ж мы—не маладзёжнае выданне, мы выданне творчай інтэлігенцыі...

— Ну і што... Тым больш...

— Раней чым вырашаць, трэба пазнаёміцца з інтэрв'ю.

— Я вам прынясу газету... Які ваш адрас?

І вось Міхееў, Аляксандр Адамавіч, у рэдакцыі газеты. Знаёмімся. Скончыў наш БПІ. Служыў у арміі. Працаваў на аўтабазе. Зараз працуе інжынерам вытворча-дыспетчарскага аддзела МТЗ. Жанаты, мае двое дзяцей.

Разгортваем газету «Юрмала» — орган Юрмальскага гарадскога камітэта Кампартыі Латвіі і Юрмальскага гарадскога Савета народных дэпутатаў (Юрмала, хто не ведае, гарадок на Рыжскім узмор'і, складаецца з пасёлкаў курортнага тыпу.—**Рэд.**). Выходзіць з сакавіка 1980 года, на 16 палосах лімаўскага фармату. Гутарка карэспандэнта газеты А. Ольбіка з членам ЦК КПСС Б. М. Ельцыным *займае тры поўныя паласы.*

— Мнагавата.. Не так проста месца знайсці для перадруку...

— Ну і што!.. Затое ўсе прачытаюць,—Аляксандр Адамавіч Міхееў застаецца пры сваім *цвёрдым перакананні, што інтэрв'ю павінна быць перадрукавана.*—Вы ж ведаеце, колькі працэнтаў галасоў Ельцын атрымаў на выбарах...

— Добра... Давайце паглядзім само інтэрв'ю... Тут, я бачу, выдзелены некаторыя, відаць, найбольш важныя мясціны, зроблены падкрэсліванні... Вашай ці другой рукой... Давайце прабяжым іх...

Разам глядзім падкрэсленыя алоўкам словы: «На вопрос—куда идем?—вряд ли можно вот так, походя ответить. Общество сейчас изо всех сил старается перетряхнуть старые представления и найти единственно верное направление. Поблуждали-то мы уже вдоволь. Но проходы загромождены ложью, всякой догматической рухлядью, и всем нам придется хорошенько поработать, чтобы не потеряться в завалах прошлого»... «Вы, конечно, вправе спросить: а почему это Ельцыну нужно было больше всех высовываться? Вопрос не из простых, но я все же попытаюсь на его ответить. Я для себя давно уже взял за правило, что при столь непродолжительном миге пребывания на этой земле, нужно успеть остаться человеком. Второй жизни не будет»... «К счастью, мы знаем о своих недугах: имя им — забвение цели, ради которой свершалась Великая Октябрьская...»

— Ну як—будзеце перадрукоўваць? — пытаецца зноў А. Міхееў.

— Пытанне на пытанне: што, скажыце, вам, інжынерна-тэхнічным работнікам, рабочым, перш за ўсё падабаецца ў Ельцыне? Чым ён так «бярэ» вас?

— Перш за ўсё тым, што ён шчыра гаворыць тое, што думае. Калі ён, працуючы на партыйнай рабоце, прыязджаў на «ЗіЛ», то збіралася шмат людзей, увесь завод яго слухаў. У апараце, пераважна брэжнеўскім, ён свежы, новы чалавек.

— Яшчэ чым захапляе вас Ельцын?

— Ён як ніхто выступае супраць сацыяльнай несправядлівасці, супраць усіх прывілей. І не толькі выступае, а паказвае асабісты прыклад... Дык надрукуеце?

— Трэба пытацца дазволу ў «Юрмалы»... А калі мы замест інтэрв'ю з Ельцыным надрукуем вось гэту нашу размову з вамі? Вы згодны?

Аляксандр Адамавіч глядзіць запытальна, вагаецца; маўляў, не гэтага я хацеў. І потым, хоць і неахвотна, дае згоду. На развітанне па-дзелавому ўдакладняе, у якім нумары мы раскажам пра нашу з ім гутарку...

# Не паразумеліся

На гэты раз чытачоў прыйшло адразу трое — Ігар Аўдзееў, Сяргей Кункевіч, Сяргей Плыткевіч. Усе яны маладога ўзросту людзі, супрацоўнікі адзінай у рэспубліцы маладзёжнай беларускай газеты «Чырвоная змена». Не асабістыя крыўды, не прыватнага значэння падзеі прывялі іх у «ЛіМ»...

Што абстаноўка ў «Чырвонцы» апошнім часам склалася няпростая, мы ведалі. Прадгісторыя, коратка, такая. Ліхаманіць рэдакцыю пачало з пачатку гэтага года, калі яе рашылі «ўзмацніць» новым адказным сакратаром. Рабілася гэта спешна: былы загадчык сектара друку аддзела прапаганды ЦК ЛКСМБ даведаўся пра сваё прызначэнне ў дзень, калі яго прадстаўлялі калектыву. Неўзабаве на парадак дня стала і пытанне аб новым рэдактары. Калектыў дружна выказаўся за намесніка рэдактара А. Зэкава, які апошнім часам выконваў рэдактарскія абавязкі і пры якім маладзёжная газета пачала набываць сваё аблічча. Спадзеючыся, што да іх меркавання прыслухаюцца, журналісты накіравалі ліст першаму сакратару ЦК ЛКСМБ В. Кудлашу. Не дачакаўшыся адказу, звярнуліся ў ЦК КПБ і нарэшце — паслалі тэлеграму ў сектар друку ЦК КПСС. «Перапіска» станоўчых вынікаў не дала — на вакантную пасаду пераводзяць з газеты «Знамя юности» У. Бельскага.

Не цяжка здагадацца, як прынялі новага рэдактара. Менавіта ён «пажаў» тое, што «пасеяла» валявое рашэнне кіруючых асоб. Варта паспачуваць чалавеку, які з першага дня аказаўся без віны вінаватым, праўда, і спроб паразумецца з калектывам ён, як сцвярджаюць чырвоназменаўцы, пакуль не зрабіў. А галоўнае — яго канкрэтныя дзеянні, на думку большасці членаў калектыву, не спрыяюць працягу абранай газетай лініі на сацыяльную актыўнасць, на абуджэнне ініцыятывы і свядомасці моладзі.

Такім чынам, канфлікт выйшаў за межы рэдакцыі, стаў набыткам грамадскай думкі. Гэтаму спрыялі і перадача па рэспубліканскім радыё, і пікеты чытачоў каля Дома друку. Адзін з плакатаў паведамляў: «Чырвонка» — газета, якая калі-нікалі друкавала праўду!».

Яны гавораць стрымана, але з унутраным напружаннем, перабіваючы адзін аднаго. Адчуваецца, што для іх «Чырвонка» — не проста месца працы, што ім дарагі грамадскі прэстыж газеты, яе далейшы лёс.

**— У нас быў дружны творчы калектыў, а што цяпер?**

**— Апускаюцца рукі. Ніхто з нас не хоча працаваць «на кошык».**

Наведвальнікі прыйшлі да нас са штомесячным бюлетэнем маладзёжнай інфармацыі «Ориентиры» (выданне ТАСС), дзе ўдумліва даследуецца вышэйпададзеная сітуацыя і ставіцца «дыягназ». Вось ён: «Кіраўніцтва ЦК ЛКСМБ праігнаравала думку калектыву газеты». Далей прыводзяцца словы, сказаныя не так даўно В. А. Мядзведзевым у Мінску на сустрэчы з прадстаўнікамі партыйных і грамадскіх арганізацый: «Карэнныя змены адбываюцца і ў кіраванні самім ідэалагічным працэсам. Тут тым больш выключаецца прымяненне камандных, дазваляюча-забаронных метадаў. Аддаць указанне, аказаць націск, нешта дазволіць, нешта забараніць — на такія метады ідэалагічная работа арыентавацца не можа».

«Не можа» — гэта ў ідэале. На практыцы, на жаль, усё яшчэ арыентуецца.

**— З палос выкрэсліваюцца «крамольныя» словы, накшталт талака (нават без двухкосся).**

**— Такое адчуванне, што рэдактар не ведае, як зрабіць газету лепшай...**

**— У нас не выпрацавана канцэпцыя газеты...**

**— Вастрыня для нас — не самамэта, мы не экстрэмісты...**

**— Мы прыйшлі ў «ЛіМ», бо хочам галоснасці. Гэта — наш апошні шанец.**

На першы погляд можа здацца, што прадстаўнікі «Чырвонкі» драматызуюць сітуацыю: газета і пры новым рэдактары чытаецца з цікавасцю (многія з лімаўцаў, дарэчы, яе выпісваюць). Аднак жа прызнаем, што канфліктная гісторыя зацягнулася і што адказнасць за яе ляжыць не на тых, хто душой хварэе за сваё выданне.

Канфлікт — што нарыў на здаровым целе, пакуль ён існуе, нармальнай абстаноўкі ў рэдакцыі быць не можа. У атмасферы адчужэння і ўзаемнага непрыняцця паміраюць і творчасць, і пошук, а гэта немінуча адаб'ецца на якасці і на папулярнасці «маладзёжкі».

Мы не сталі б пісаць пра ўнутраныя справы іншай рэдакцыі, калі б за ўсім, што адбылося ў «Чырвонай змене» і пра што нам, хвалюючыся, расказалі яе супрацоўнікі, не стаяў цэлы комплекс пытанняў. Як, напрыклад, «кіруючая роля» суадносіцца з дэмакратыяй, з правам на сваю думку? Што такое ўласная пазіцыя газеты? Чаму палітычная культура, як і ўсё новае ў нас, нараджаецца ў муках? Што больш ганарова для кіруючага работніка — адступіць, прызнаўшы сваю памылку, ці настойваць на ёй? Пытанні, якія хвалююць не толькі нашых малодшых калег, а і ўсіх нас...

А наперадзе — чарговы пленум ЦК ЛКСМБ, які, спадзяёмся, не адмахнецца ад праблем нашай «Чырвонкі».

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

# Вырашаў акруговы сход...

## Сваім вопытам дзеліцца двойчы экс-кандыдат у народныя дэпутаты

У сёлетняй выбарчай кампаніі мне давялося ўдзельнічаць спачатку як кандыдату ў кандыдаты, якога «высадзілі» на акруговым сходзе, а потым — у якасці члена групы падтрымкі доктара філасофскіх навук, загадчыка кафедры Віцебскага педінстытута М. А. Слямнёва. Ягоная праграма прадугледжвала не толькі вырашэнне мясцовых праблем, але і ўдасканальванне сістэмы агульнасаюзнага заканадаўства. Асоба Міхаіла Аляксандравіча імпанавала віцяблянам яшчэ і тым, што ўжо першыя дні перадвыбарнай барацьбы паказалі: на згодніцтва з бюракратыяй ён не пойдзе. *На выбарах 26 сакавіка Слямнёў* значна апярэдзіў свайго саперніка, але некалькіх соцень галасоў яму не хапіла... Больш чым 49 працэнтаў выбаршчыкаў, якія аддалі сваю перавагу вучонаму, далі Слямнёву маральнае права і надалей змагацца за сваю праграму.

І таму калі прадстаўнікі некаторых заводаў і арганізацый *Віцебска прапанавалі мне зноў* паспрабаваць свае шанцы, я спачатку адмовіўся.

Былі і іншыя прычыны: не хацелася рабіць людзям непрыемнасці. Для хвалявання меліся падставы, бо яшчэ не зняты вымовы з ініцыятараў вылучэння маёй кандыдатуры на тэлезаводзе ў студзені. Ды і цяпер... На адным з заводаў заявілі, што агітацыя за мяне будзе разглядацца як заява аб звальненні па ўласным жаданні. Выкладчыкам дзіцячай мастацкай школы, якія мелі неасцярожнасць назваць мяне сваім кандыдатам, начальнік аддзела культуры гарвыканкома В. Кібісаў учыніў «прачуханку», а калі яго натацыі не прынеслі поспеху, у школу наведаўся сакратар Пер*шамайскага райкома КПБ* А. Сафронаў... На мінулым этапе выбараў галоўнымі аргументамі супроць мяне з'явіліся ўдзел у «Мартыралогу Беларусі» і нейкая міфічная быццам бы кінутая мной разам з дзецьмі жонка, то цяпер, выступаючы ў адным з аддзелаў тэлезавода, сакратар партарганізацыі У. Макараў у якасці самага адмоў*нага факта маёй біяграфіі* назваў тое, што я... сын партыйнага работніка. Калі ж гэты «аргумент» не дасягнуў сваёй мэты, савет працоўнага калектыву вырашыў не праводзіць агульназаводскую канферэнцыю — хоць на заводзе быў і яшчэ адзін кандыдат, сумленны і прынцыповы рабочы М. Кароль, які да таго ж сынам партработніка не з'яўляецца.

Кампанія супраць непажаданых кандыдатаў у Віцебску набыла надзвычайны маштаб. *Рабочыя* завода «Эвістар» вылучылі токара А. Ушакова, але савет працоўнага калектыву адмовіўся правесці канферэнцыю на той анекдатычнай падставе, што, маўляў, Ушакова вылучылі толькі 0,2 працэнта завадчан. Акруговая выбарчая камісія вяртала протаколы сходаў, дзе вылучалі М. Слямнёва. Кааператары горада таксама *назвалі сваіх кандыдатаў*, але ніводнага з іх не дапусцілі нават да акруговага сходу.

Прааналізаваўшы абстаноўку, мы вырашылі, што адмаўляцца ад перадвыбарчай барацьбы ў такіх умовах — значыць прызнаць сваё паражэнне перад бюракратычным апаратам.

Уражвае паспешлівасць, з *якой рыхтаваўся* акруговы сход — ён быў прызначаны на пятніцу 14 красавіка, ужо на наступны дзень пасля таго, як было скончана вылучэнне. Так, на станкабудаўнічым заводзе імя Камінтэрна, дзе вылучылі мяне, аб колькасці дэлегатаў даведаліся... за тры гадзіны да рэгістрацыі. Здзіўляе і сама сістэма прадстаўніцтва: ад ка*лектываў, якія вылучылі кандыдатаў*, — 110 чалавек, ад «горада» — 220. Апошнія, у пераважнай большасці, былі кіраўнікі прадпрыемстваў і іх намеснікі, прафоргі, парторгі. Не дзіўна, што ўваход на гэтае «прадстаўнічае» мерапрыемства надзейна ахоўваўся трайным кардонам з работнікаў гарвыканкома, праз які не ўдалося прарвацца ніводнаму з прадстаўнікоў Дзяржпрыёмкі тэлезавода, якая вылучыла свайго кандыдата і, па Закону, мела права на месцы ў зале. Затое ўсе сакратары гаркома, першыя сакратары райкомаў партыі прайшлі без усялякіх перашкод.

Тое, што вялікая колькасць дэлегатаў добра знаёмая паміж сабой, пацвярджалася выключнай аднадушнасцю, з якой прымаліся прапановы старшыні, члена бюро гаркома КПБ В. Кічыгіна: галасаваць адкрыта, *дапусціць у бюлетэні не больш* трох кандыдатаў, абмежавацца шасцю прамоўцамі ў спрэчках...

Не буду апісваць спрэчкі — кожны вольны агітаваць за альбо супраць, кожнаму даецца права гаварыць тое, што лічыш патрэбным, і тымі словамі, якія адпавядаюць тваёй выхаванасці. Але дзіўна было чуць з вуснаў генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання, члена ідэалагічнай камісіі ЦК КПБ заклікі аддаць перавагу толькі тым, хто «университетов не кончал»...

Але былі і іншыя прапановы: уключыць у спіс усіх кандыдатаў. Абсалютная большасць сходу выказалася супраць. Галасаванне, праўда, было ней*кім дзіўным: падлічвалі*, хто — за, хто — супраць, а колькасць тых, што ўстрымаліся, вызначалі ад агульнай колькасці дэлегатаў. Пасля перапынку я заўважыў, што ў зале шмат пустых месцаў, і папрасіў пералічыць прысутных, але і гэтую прапанову большасць дэлегатаў не падтрымала.

Да рэгістрацыі былі дапушчаны два кандыдаты — брыгадзір газазваршчыкаў Г. Арцёменка і слесар лакаматыўнага дэпо Я. Воўк. Абодва, безумоўна, — дастойныя людзі, і дай бог аднаму з іх атрымаць дэпутацкі мандат. Прафесару Слямнёву не хапіла дзесяці галасоў. І тое, што лёс кандыдата, за якога на папярэдніх выбарах прагаласавала 107 тысяч чалавек, вызначылі дзесяць удзельнікаў сходу, пераканаўча сведчыць аб антыдэмакратычнасці самой ідэі правядзення акруговых выбарчых сходаў. Рызыкну сказаць, што бюракратыя зробіць усё магчымае, каб на выбарах у мясцовыя Саветы і ў Вярхоўны Савет рэспублікі пакінуць гэтае казуістычнае мерапрыемства як вельмі зручны, і, галоўнае, надзейны сродак.

...Супрацоўнікі педінстытута і філіяла Інстытута фізікі цвёрдага цела АН БССР, карыстаючыся прадастаўленай законам магчымасцю апратэставаць у трохдзённы тэрмін рашэнне сходу, накіравалі тэлеграму ў Цэнтральную выбарчую камісію. Тэлеграма (хуткая, зразумела) была адпраўлена ў суботу. А трапіла ў Маскву толькі ў панядзелак, пасля абеду. Работнікі віцебскай пошты тлумачаць гэта паломкай тэлеграфнага апарата...

Сяргей НАВУМЧЫК,
журналіст.

Рэч Паспалітая, для таго, каб садзейнічаць яе вызваленню...»

«Пераход М. Сматрыцкага з праваслаўя ва уніяцтва,—піша А. Лойка, — быў найперш абумоўлены дзяржаўнымі інтарэсамі, якія(...) перамаглі, прычым М. Сматрыцкі стаў на пазіцыю прызнання за сваю айчыстую дзяржаўнасць Рэчы Паспалітай, Вялікага княства Літоўскага». Гэта не здрада, мяркуе аўтар, хоць вядома, з якой пагардай М. Сматрыцкі у «Трынасе» ставіўся да Рыма, паўтараючы ўслед за Ф. Петраркам: «Рым—крыніца няшчасцяў... Ты быў Рымам, а цяпер стаў Вавілонам... О горад здрады: для добрых ты акрутная турма, для злых — абарона і прытулак, пекла для жывых...». Некалькі вышэй Алег Лойка такімі ж словамі ацэньвае Льва Сапегу: «...нягледзячы на сваё княжацкае паходжанне, на тое, што пад канец жыцця перайшоў у каталіцызм, даўшы гэтым не лепшы прыклад іншым беларускім магнатам і шляхце, тым не менш застаецца адной з першых зорак нашага сярэднявечча...».

Якія ж гэта былі дзяржаўныя і патрыятычныя інтарэсы М. Сматрыцкага і Л. Сапегі? Ці не абараняць шляхецкія вольнасці ад Маскоўскага цара? Няўжо «ідэалу Івана Грознага супрацьстаялі шляхецкія вольнасці»?

Супярэчнасці ў палітыцы і літаратуры трэба шукаць глыбей. С. Будны лічыў неабходным растлумачыць заганы сацыяльнага ладу Рэчы Паспалітай інакш, чым гэта рабіў Маджэўскі: «...У нас у Сарматыі, г. зн. у Польшчы, Літве, на Русі, а таксама ў іншых краінах,—пісаў ён,—шляхціцу дазволена, хоць ён з'яўляецца прыватнай асобай, пакараць горлам свайго раба, а таксама падданага... таму прыватная асоба, калі яна адносіцца да шляхецкага саслоўя, нічым не адрозніваецца ад службовай асобы; абодва валодаюць уладай над тымі, кім кіруюць». А як глядзеў народ на ўладу? Гісторык Ш. Старавольскі расказвае, што, калі беларускіх простых людзей пераконвалі, каб уз'ядналіся з каралеўскімі войскамі: «...скінуўшы ярмо тыранскага рабства са сваёй шыі, разам з намі карысталіся свабодай і мілымі вольнасцямі, то яны адказалі: «не хочам, пан епіскап, вашай свабоды, трымайце яе сабе, бо ў нас толькі цар, які распараджаецца нашым горлам і турботамі, а ў вас што пан, то тыран».

У святле гэтых фактаў не на карысць А. Рымшы сведчыць тое, што, як *піша* А. *Лойка*, «...выбраў з дзвюх іпастасей— з феадальнай дэмакратыі і дэспатызму—першую». Ні А. Рымша, ні яго сучаснік С. Рысінскі не кіраваліся марай аб такой дэмакратыі, яны спачувалі народам, якія пакутавалі ад войнаў і злачынстваў. Такім быў і Я. Вісліцкі, які яшчэ ў 1516 годзе пісаў у вершы «Аршанская бітва»: «На жаль, няшчасны край Літва перажыў шмат крыўдаў... праклясці каб войны гэтыя жудасныя...». С. Рысінскі ў вершах «Эпітамэ» спяваў: «Гора, забойства, журботы ўбачыш ўсюды, усюды. Жонкі над целам мужэй плачуць, над сынам бацькі».

Калі гаворым аб вялікай культурнай спадчыне беларускага народа, трэба прызнаць, што рышэльеўская ідэя un roi, une loi (адзін кароль, адзін закон, адна вера) тлумачыцца і так: моцная справядлівая ўлада, адзін закон для ўсіх грамадзян, не толькі для шляхты, адна вера, але без забабонаў і цемрашальства.

**Якуб ПАРЭЦКІ.**

---

Патрапілі ж гэтыя вершы, здаецца, у зборнік толькі для таго, каб пашырыць яго тэматыку.

Нічога новага ні думцы, ні пачуццю не даюць і вершы антываеннай скіраванасці, якімі адкрываецца паэтычная кніга Л. Паўлікавай. Недахоп у іх вядомы — расцягнутасць, невыразнасць думкі, інфармацыйнасць, паўтарэнне прапісных ісцін або, як гэта здарылася з «Клічаўскімі лясамі», празмерная квяцістасць.

Агульнавядомыя ісціны паэтка паўтарае ў вершы «Ёсць хлеб у нас. І ёсць да хлеба — соль»... Не спараджаюць сур'ёзнага роздуму развагі яе наконт чалавечай дабрыні. «Чалавечае ўсё пачынаецца — з дабрыні, разумення, даверу». Не ўбачыў, не адчуў і той прорвы, куды штурхае чалавецтва неабдуманы крок навукі («Хоць мноства дум...»), бо ён не прасякнуты трывогаю самой аўтаркі.

Але можна спаткаць у новым зборніку паэзіі Людмілы Паўлікавай і такія вершы, якія, мяркую, зробяць гонар кожнаму паэту. Я маю на ўвазе творы «У карціннай галерэі», «Ноч надышла проста зменай дня», «Вершы ўдзячнасці Пімену Панчанку». Для іх характэрны выверанасць думкі, абвостранае сацыяльнае гучанне, уменне, якога паэтцы стае не заўсёды, без прымусу і насілля над сабой выплеснуць свой боль і сваю горыч, прыўзняцца над прыватным фактам.

Думаецца, што Людмілу Паўлікаву можа напаткаць творчы поспех тады, калі яна перастане ў сваіх вершах імкнуцца да паднашэння гатовых ісцін (у большасці выпадкаў яны амаль заўжды і не толькі ў яе бываюць прапіснымі), а будзе ясна і дакладна, на ўзроўні свайго таленту, выразна акрэсліваючы асабістую пазіцыю, раскрываць сацыяльную і маральную сутнасць абранай тэмы, героя, вобраза і г. д. Знайшліся ж у паэткі неабходныя словы, патрэбныя мастацкія сродкі, каб перадаць у адным з самых, бадай, лепшых вершаў зборніка «У карціннай галерэі» свой боль і горыч, свой неспакой, трывогу з прычыны запаланіўшай людзей спажывецкасці ў адносінах да мастацтва, духоўнай культуры наогул.

**Дзіця і мадонна...**
***Глядзяць з палатна,***
**Дыханнем жыцця сагрэты.**
**А ззаду пытаюць:**
**— Якая цана**
**Карціне маленькай?**
**Гэтай!**

Л. Паўлікава нiколькі не перабольшвае ў сваім выкрыцці. Сапраўды, мы, здаецца, толькі цяпер усвядомілі, пачынаем задумвацца над тым, што нам жа самім давядзецца разлічвацца і «За першае слова дачок і сыноў, яшчэ не народжаных намі», «...за нашы душы», і «... за праўду і кроў, За прадзедаў славу і храмы»... За сваю бездухоўнасць і спароджаную ёю абыякавасць.

Правільна расстаўлены гуманістычныя акцэнты і ў вершах «Ліхтаршчык-вечар зоры запаліў...», «Не вымярай маёй віны...».

Гаворачы пра новыя вершы Л. Паўлікавай, нельга не ўпікнуць яе і за паспешлівасць у выбары слова. Дакладнасць слова, пастаўленага ў радок, як вядома, нараджае і прадвызначае дакладнасць і выразнасць думкі, гармонію. Здаецца, і ведае пра гэта паэтка, але часам абыходзіцца са словам па-дзявочы лёгкадумна:

**Не мароз у твар,**
**А ў душу, як вар.**
**(«Сустрэча»);**
**Калі ад крыўды ломіць**
**косці...(!)**
**(«На дваіх»);**
**Б'ецца сэрца адкрытаю**
**поштай**
**У вароты сялібы чужой...**
**(«І чаму ў гэтым свеце**
**расстайным...»)**

У заключэнне застаецца нагадаць, што дэбют у паэзіі Людмілы Паўлікавай быў удалым, а яе першую кніжку лірыкі прыхільна сустрэў чытач. Пэўная недаробленасць вершаў, тэматычная беднаватасць другога яе зборніка — выдаткі пошукаў паэтэсай сваёй запаветнай тэмы ў беларускай паэзіі, сваёй творчай манеры.

**Міхась КАРПЕЧАНКА.**
г. Бялынічы.

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СПАСЦІГАЮЧЫ ВЕЛІЧНЫ ВОБРАЗ

**Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла напісаную Уладзімірам Гніламёдавым, Лідзіяй Савік і Сцяпанам Лаўшуком кнігу «У. І. Ленін і Кастрычніцкая рэвалюцыя ў беларускай літаратуры». Эпіграфам да зборніка ўзяты словы народнага паэта Беларусі Максіма Танка: «Леніна імя мільёнаў працоўных надзея, сонца палаючае над шляхамі людскімі, песня свабоды, што пераможна рэе, сэрцы братэрствам злучаючы,— Леніна імя. Леніна слова — надзейная зброя ў змаганні за справядлівасць, за мірны свет, казачны, новы, ключ да бясконцых глыбінь чалавечых пазнанняў, хлеб жыццядайны і шчодры наш — Леніна слова...»**

**У артыкуле У. Гніламёдава «Ён неўміручы — як народ» разглядаецца, як вобраз Ільіча адлюстроўвае беларуская паэзія. Наколькі вядома, першым да спасціжэння яго звярнуўся народны пясняр Янка Купала, калі ў 1922 годзе напісаў верш «Пазвалі вас...» Як сведчыць эпіграф, тэма твора падказана канкрэтнай падзеяй: «Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі за*прасіць на міжнародную нараду ў Генуя* т. Леніна (з газет 1921 г.)».**

**Гаворачы пра гэты верш, даследчык падкрэслівае, што па-сапраўднаму ленінская тэма пачала распрацоўвацца пасля смерці правадыра працоўных — паэма З. Бядулі «Чырвона-чорная жалоба», вершы А. Гурло, П. Труса, А. Вольнага, А. Дудара, Н. Чарнушэвіча і іншых. Спыняецца крытык і на паэме М. Чарота «Ленін».**

**З артыкула відаць, як у розныя гады беларускія паэты па-рознаму падыходзілі да паказу вобліка Ільіча. Найбольш поўнае і глыбокае спасціжэнне яго адбываецца ў пасляваенны час і асабліва пачынаючы з сярэ*дзіны пяцідзесятых гадоў*.**

**Лідзія Савік свой артыкул назвала «Ленін і рэвалюцыя ў беларускай прозе». Тут вобраз У. І. Леніна доўгі час не знаходзіў свайго прамога адлюстравання. Спачатку пісьменнікі ўзнаўлялі толькі падзеі, якія адбываліся як увасабленне ленінскіх ідэй, сведчанне рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства. Першым паспрабаваў намаляваць вобраз Ільіча З. Бядуля ў аповесці «Дзесяты». Асноўныя ж набыткі звязаны з прозай апошняга часу. Л. Савік запыняе ўвагу на творах В. Хомчанкі, Я. Брыганскай, Я. Сіпакова, І. Гурскага і іншых пісьменнікаў. Больш падрабязна перачытвае яна Ленініяну, над якой не першы год працуе І. Шамякін — пачынаючы ад апавяданняў «Хлеб», «Матрос з «Алега» і канчаючы раманам «Петраград—Брэст», у якім вобраз Леніна — стратэга, грамадскага дзеяча — раскрыты асабліва поўна.**

**Артыкул С. Лаўшука «Жывыя, яркія штрыхі» мае падзагаловак «Ленін і рэвалюцыя ў беларускай драматургіі». «Лічыцца,— зазначае даследчык,— што драматургічная Ленініяна ў беларускай літаратуры вельмі бедная, нераспрацаваная і г. д. А між тым нам не трэба залішне прыбядняцца. Ужо адзін той факт, што ўпершыню персанажна У. І. Ленін выведзены ў п'есе палачаніна Ю. Тарыча, гаворыць вельмі пра многае». Як сведчыць С. Лаўшук, гістарычна-рэвалюцыйная хроніка «Пагібель самадзяржаўя» была пастаўлена Ю. Тарычам сіламі трупы крамлёўскіх курсантаў у 1924 годзе. Аналізуе крытык і тыя творы беларускай драматургічнай Ленініяны, якія з'явіліся пазней, у тым ліку і нядаўнія п'есы К. Губарэвіча і А. Петрашкевіча.**

**Прадмову да кнігі напісаў М. Мушынскі.**

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

---

# АМАДЖАН — ЗДАРОВАЯ ДУША

## Несвяточныя нататкі са свята

**Звычайна гэтае свята на старонках прэсы, па тэле- ці радыёпрыёмніках называюць паэтычна-ўзнёсла — Кніжчын тыдзень. Штогод, пад час вясновых канікул, у адну з рэспублік з'язджаюцца літаратары, якія актыўна пішуць для дзяцей і юнацтва. У школах, бібліятэках, палацах піянераў адбываюцца дзесяткі сустрэч, дыспутаў, «круглых сталоў» з удзелам прапагандыстаў дзіцячай кнігі, настаўнікаў і, вядома ж, школьнікаў ад пачатковых да самых старэйшых класаў. Тут будзе дарэчы нагадаць, што ў 1987 годзе прадстаўнікоў многіх нацыянальных літаратур прымала наша рэспубліка. Помніцца, на развітальнай прэс-канферэнцыі шмат хто з гасцей з захапленнем гаварыў: «Мы ўбачылі Беларусь! Яе прыроду, яе дзяцей, вашы радасці і турботы...» Напэўна, няма для гаспадароў ацэнкі вышэй за гэтую.**

**Сёлета эстафету Усесаюзнага Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі прымаў Казахстан. У нялёгкую, больш за чатыры тысячы кіламетраў дарогу мы выбраліся ўдвух з Уладзімірам Ліпскім. Рэдактар нашай «Вясёлкі» бываў на падобных імпрэзах і падбадзёрваў мяне ўспамінамі пра цікавыя вандроўкі ў Эстонію і Узбекістан. Вылецелі з Мінска ў дзве гадзіны дня. Першы прыпынак у Набярэжных Чаўнах, другі — у Карагандзе, і *далёка за поўнач* па мясцовым часе былі ў Алма-Аце. Назаўтра выйшлі з гатэля «Казахстан» на вуліцу і адразу адчулі: калі ў Мінску пачатак вясны, дык тут ужо дыхае лета. У палудзень, напрыклад, ртутны слупок тэрмометра падскочыў да рыскі 25°. Трэба сказаць, мы прыпазніліся, не змаглі з-за адсутнасці авіябілетаў далучыцца да свае групы ў Паўладары. Спадзяваліся рэабілітаваць сябе выступленнямі ў сталіцы рэспублікі, а таксама ў Алма-Ацінскай вобласці. Прыемна было і тое, што мелі чым парадаваць гаспадароў, бо прыхапілі з сабою некалькі экземпляраў анталогіі казахскай дзіцячай літаратуры «Залаты каравай», выдадзенай летась нашым «Юнацтвам». Пасля ўскладання кветак да помнікаў У. І. Леніну і Абаю накіраваліся аўтобусамі на прэс-канферэнцыю ў Дом літаратара Казахстана. Перад яе пачаткам нам раздалі план мерапрыемстваў. Зазірнуўшы ў яго, мы, калі шчыра сказаць, здзівіліся і засмуціліся: тры з чатырох дзён Тыдня да палудня былі адведзены для прэс-канферэнцый, сустрэч у ЦК ЛКСМ Казахстана, «круглых сталоў» *на тэму «Сучасны стан казахскай дзіцячай літаратуры»* ў Доме літаратара і на мясцовым тэлебачанні, і толькі адзін дзень быў цалкам прымеркаваны для знаёмства з дзецьмі і іх настаўнікамі. І яшчэ: тая першая па прыездзе прэс-канферэнцыя высвеціла некалькі парадоксаў. Так, ад саюзных рэспублік прысутнічала па аднаму-два літаратары, тады як маскоўскую дэлегацыю цяжка было пералічыць. «Знаёмыя ўсё твары!..» — жартаўліва пракаменціраваў мне спіс удзельнікаў свята наш сусед з Літвы вядомы крытык Ёнас Лінкявічус. Аказваецца, ёсць, так бы мовіць, штатныя ўдзельнікі Усесаюзнага Тыдня, і яны ўжо ўмудрыліся аб'ехаць ледзь не ўсе рэспублікі, у тым ліку і нашую. А вось для прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у РСФСР-скай дэлегацыі чамусьці, як правіла, месца не знаходзіцца... Далей. Прэс-канферэнцыя, па сутнасці, так і не адбылася, хоць у залу набілася паўнюткa людзей. Нас прадставілі ім пад воплескі і... ласкава так папрасілі пакінуць памяшканне, бо, як растлумачыў вядучы, пісьменнікі сабраліся тут на сваю прафесійную размову (?!). Агульнае прыкрае недаўменне заглушыла вострае выступленне першага сакратара праўлення СП Казахстана Алжаса Сулейменава, заснавальніка вядомай у краіне экалагічнай арганізацыі «Невада», што змагаецца за спыненне на казахстанскай зямлі ядзерных выбухаў. Дарэчы, якраз адбыліся выбары народных дэпутатаў СССР, і мы сталі сведкамі, як людзі розных нацыянальнасцяў перажывалі за Сулейменава, які не дабраў да перамогі некалькі працэнтаў галасоў.**

**Асабіста мне з усіх сустрэч запомнілася, бадай, тая, што адбылася ў Рэспубліканскай бібліятэцы імя Пушкіна. На ёй прысутнічалі бібліятэкары школ горада і жменька дзяцей. Выступаючых было чалавек дваццаць, калі не больш, і кожнаму з нас трэба было ўкласціся ў нейкія пяць хвілін. А што можна расказаць за пяць хвілін? Хіба прачытаць адзін верш ды паведаміць, адкуль ты прыехаў. Аднак, на маё здзіўленне, зала слухала ўважліва, і на сцэну нават паступіла некалькі пытанняў. І ўсё-такі тады ўжо міжволі падумалася: ці варта наладжваць такія ўсесаюзныя святы, ці не наспеў час пашукаць нейкую іншую форму кантактаў з юнымі чытачамі? Сапраўды, што можна сказаць за тыя пяць хвілін, калі цябе бачаць і чуюць упершыню? Мне думаецца, прыйшла пара праводзіць больш *сціплыя*, рэгіянальныя Кніжчыны тыдні, на якіх пісьменнік быў бы не залётным птахам, а змог бы пасябраваць з дзецьмі, пагаварыць з імі — і пра кнігу, і пра тое, што іх турбуе. Скажам, чаму не правесці дні дзіцячай казахскай літаратуры ў Беларусі і Прыбалтыцы? А дні Украінскай дзіцячай літаратуры — у Закаўказзі?**

**А самае хвалюючае пад час наведвання бібліятэкі імя Пушкіна нас чакала ў самым канцы сустрэчы. У фае Уладзіміра Ліпскага і мяне абступілі нашы *землячкі, якія стала жывуць у* розных гарадах Казахстана. Як з рога пасыпаліся пытанні: і пра чарнобыльскі выбух, і пра сумнавядомыя ва ўсім свеце Курапаты, і пра падзеі 30 кастрычніка ў Мінску... Было відаць *па вачах*, адчувалася *па* ўсхваляваных галасах: жанчыны распытваюць не дзеля цікавасці, каб пачутае, як кажуць, з першых вуснаў супаставіць з прачытаным у газетах і часопісах; у іхніх душах прачнулася, абудзілася пачуццё Бацькаўшчыны, якое дапамагае чалавеку не згубіцца, не растварыцца сярод народаў і краін. І сведчаннем таму, сказаў у час нашай гутаркі Уладзімір Ліпскі, тыя шматлікія лісты ў рэдакцыю «Вясёлкі», што пасыпаліся з самых розных куткоў Саюза. Лісты ад дзяцей нашых суайчыннікаў-перасяленцаў, напісаныя з памылкамі, але ўсё ж па-беларуску.**

**І апошняе, пра што хацелася б згадаць у гэтым кароткім рэпартажы з паездкі ў Алма-Ату. На адной з чарговых «прафесійных размоў» пра стан сучаснай дзіцячай літаратуры ў Доме літаратара слова адважылася ўзяць маладая настаўніца-казашка. Папрасіла дазволу гаварыць на роднай мове, і залу напоўніў голас, падобны да голасу горнага ручая. Прынамсі, так падалося мне. Потым хтосьці з гаспадароў зрабіў дакладны пераклад сказанага, але і без перакладу кожны з прысутных адчуў непадробную ўсхваляванасць дзяўчыны, яе жаданне выказаць набалелае, шмат разоў перадуманае. А гаварыла яна пра незайздросныя ўмовы *жыцця дзяцей* у *вялікіх казах*скіх сем'ях, пра высокую дзіцячую смяротнасць у рэспубліцы, заклікала нас, літаратараў, і пяром, і справай, і ў свята, і ў будзень змагацца за напаўненне рэальна-праўдзівым зместам шырокага лозунга «Усё лепшае — дзецям», што цяпер у многіх рэгіёнах краіны гучыць, як насмешка, калі суаднесці яго з суровай рэальнасцю нашага жыцця.**

**Пасля заканчэння пасяджэння я падышоў да настаўніцы, каб пазнаёміцца.**

**— Амаджан, — назвалася яна.**

**Мне ўжо сказалі, што звычайна казахскія імёны азначаюць нейкае паняцце, таму папрасіў дзяўчыну раскрыць сэнс яе імя.**

**— Амаджан — гэта, у перакладзе на рускую мову, — здаровая душа, — усміхнулася настаўніца і вінавата-сарамліва дадала: — Так мяне назвала бабуля...**

**Пісаў гэтыя радкі і ўспамінаў цікаўныя і чорныя, як вугалькі, вачаняты казахскай дзятвы, успамінаў таксама сардэчную гасціну ў дзіцячага пісьменніка Султана Каліева, што як родных братоў прымаў нас з Уладзімірам Ліпскім у сябе на кватэры, успамінаў цябе, Амаджан, і думаў: «У кожнага народа — здаровая душа, і трэба, як святыню, шанаваць і берагчы яе... Ды не забываць— яна жыве паўсюдна: у *песні* і краявідзе, ва ўсмешцы і слязіне, у сяброўскім поціску рукі і, канечне, у надзеі на шчаслівы заўтрашні дзень, Амаджан!..»**

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК.**

Бабуля ў бога верыць пачала
Пасля, здаецца, шостага дзесятка.
Да гэтага не тым яна жыла,
Крыж несла на гарбу ўдавы-салдаткі.

Яе мужык даўно сканаў ад ран,
Пасечаны свінцом на грамадзянскай.
І мусіла ўзнімаць жыццё дзірван
Спрадвечнай цягавітасцю сялянскай.

Хатуль цяжкі на плечы ўскінуў лёс,
Яна і тры маленькія дачушкі.
Не высыхала ад бяссонных слёз
Да новае начы яе падушка.

Але на людзях ні слязінкі ўдзень,
Як камянела, каб набрацца сілы.
Кароў даіць — больш важкі працадзень.
А жыць жа трэба. Трыццаць год даіла.

Дамоў з калгаснай фермы прыбяжыць,
А там раве ў хляве свая карова.
Штогод араць, палоць і малаціць,
Яшчэ клапоты — сена, подсціл, дровы.

А потым, як пярун, па ёй вайна,
Падпальвалі фашысты двойчы хату.
Ды з новай, што агарала яна,
Як ластаўкі, ляцелі ў свет дзяўчаты.

Да скону лёгкай на нагу была,
То да адной, то да другой — дарога.
Калі на нозі ўнукаў падняла,
Тады бабуля ўспомніла пра бога...

Нядзеля. Вечар. За сталом сядзім
Мы з ёй на кухні. Галава пустая —
Задачка не выходзіць і прытым
Пад нос бабуля «Біблію» чытае:

«Тре-тий Ан-гел вос-тру-бил, и у-па-ла с не-ба боль-ша-я звез-да, го-ря-ща-я по-доб-но све-тиль-ни-ку, и па-ла на треть-ю часть рек и на ис-точ-ни-ки вод.
И-мя сей звез-де по-лынь; и треть-я часть вод сде-ла-лась по-лынь-ю, и мно-ги-е из лю-дей у-мер-ли от вод, по-то-му что о-ни ста-ли горь-ки».

Уздрыгваю, бо мроіцца ў акне
Анёл з трубой, і ў сенцах чую крокі.
«Бабулька, не палохай ты мяне,
Бо праз цябе не вывучу я ўрокі».

Яна злуецца: «Не перашкаджай.
Чаго развесіў лапухамі вушы?
Мяне не слухай. Сеў рашаць — рашай!..»
І зноў сухімі вуснамі варушыць...

Кідаўся ад сцяны і да сцяны
Мой ложак і валок у пашчу згубы...
І чорныя, як вугаль, груганы,
А не анёлы, узнімалі трубы.

## 7. За калючым дротам

Зараслі мае сцежкі,
Ой зараслі мае дарожкі
Зялёненькім лапушком,
Зялёненькім лапушком,
А ўсё горкім палыном.
Зялёненькім лапушком
Пасцелечку пасцялю.
А з горкага палыночку
Зглаўейка закачу.
З народнай песні.

Затрымалі ў зоне раніцой бабулю.
«Што ж вы гэта робіце? Ці загад не чулі?
Скрозь жа радыяцыя, гэта ж не навіна.
Дык жыўцом навошта лезці ў дамавіну?
Дык чаму блукаеце вы па зоне ўпотай,
Што, каго шукаеце за калючым дротам?»
Ля сялібы роднай, бульняком урослай,
Слухала салдатаў, як дзіцё дарослых.
Знізу ўверх глядзела з-пад брывоў сівенькіх,
Выцірала слёзы чорнай, ссохлай жменькай:
«Вы, сынкі, не бойцеся... Што ўжо мне пашкодзіць?..
Дзеці не пускалі, уцякла, як злодзей.
Самі мае ножанькі прывялі дадому
Шляхам невядомым, сцежкаю знаёмай.
Вы не лайце, дзеткі.... Паглядзець ахвота,
Як тут наша хатка за калючым дротам?
Вось яе адведала і лягчэй мне стала,
Можа, і знайшлося тое, што шукала».
Як зямелька — рукі, як валошкі — вочы,
Як не пашкадуеш, хочаш ці не хочаш.
«Ну, да агароджы прыбрылі... А потым?»
«Трохі падкапалася, прапаўзла пад дротам...»
Рагатнуў старэйшы: «Дыверсант, і толькі!
А што ж тут схавалі пад крысом ватоўкі?»

«А нічога... Кут мой каля ложка голы...
Не забрала ў тлуме абразок Міколы.
Вось ён, мой балесны... Твар яму абмыла.
Бач, як засвяціўся вызвалены з пылу».
«Ну, пайшлі, бабуля! Зараз на машыне
Наш шафёр да станцыі хуценька падкіне».
Між хлапцоў плячыстых крочыла памалу,
Ды каля варотаў запратэставала:
«Вы сабе служыце, не ідзіце следам.
І сюды прытупала, і назад даеду...»
Засвярбелі вочы, моўчкі, вінавата
Цыгарэты ў вуснах сціснулі салдаты...
Потым паглядзелі, ды за паваротам
Знікла ўраз старая, як і не было тут.
Толькі ў чыстым полі, што не спеліць колас,
Быццам шолах жыта, чуўся ціхі голас:
«Вы не лайце, дзеткі... Добра мне... Паверце...
Хатку паглядзела, можна і памерці...»

## 8. Марадзёры

Ой ты, воран чоран...
З народнай песні.

Адным на ўсё жыццё — пакуты, гора,
А гэтыя з бяды куюць рублі.
Паўзуць, паўзуць, як вошы, марадзёры
Па нежывой, атручанай зямлі.

Б'юць вокны і ламамі крышаць дзверы,
Хоць і цячэ па карку ліпкі жах.
Пакінутыя хаты і кватэры
Абмацваюць, як трупаў, па начах.

Спяшаюцца. грабуць: гарэлку, рэчы,
Здзіраюць, бо ў цане, і абразы.
Не трэба ўзвальваць ім дабро на плечы,
Матарызованыя ёсць вазы.

Пачырванее ад натугі морда —
Не паддаецца, а такі каўнер!
Якая прыгажуня носіць горда
Хамут радыяцыйны той цяпер?

Дарунак — тэлевізар каляровы —
Галантны хмыр любоўніцы прывёз.
Рэактар свой у хаце. Будзь здаровай!
А ён сюды не суне болей нос.

І фонд бібліятэк яны глядзелі:
Ад ботаў след — на ленінскіх тамах.
Як бомбы замаруджанае дзеі,
Пайшлі гуляць у свет Друон, Дзюма.

Паўзуць, паўзуць, як вошы, марадзёры
Не толькі ў зоне. Іх у нас — спаўна.
І нішчаць, і бяруць дзяржаву зморам,
І як яшчэ дасюль ліпіць яна?

Закладваюць пад наша заўтра міны
Чыноўныя драпежнікі-сычы:
Даюць каманду рэкі перакінуць,
А потым вінаграднікі ссячы.

Плануюць велізарную будоўлю,
Ну, камсамол, напружвайся, рабі!
Ды з ёй валынку цягнуць гэтак доўга,
Што, для чаго? — не ўспомнядь, хоць забі.

Туды-сюды без толку грузы шпараць,
Станок валютны мокне пад дажджом,
Ляжаць, пыляцца на складах тавары,
Якіх нідзе не знойдзеш днём з агнём.

Свайго яны абслужаць з-пад прылаўка
Або дадому — завядзёнка тут.
Астатнім, што ні выкінь, — будзе даўка.
Навошта бударажыць просты люд?

Мы ўсе для іх — даступныя мішэні...
Хто ж корміцца з крутога мазаля,
Каб выжыць, выварочвае кішэні
Да самага апошняга рубля.

Нялёгка ад зарплаты да зарплаты,
Ад пенсіі да пенсіі трываць.
А побач злодзей, прайдзісвет закляты
Па рэстаранах можа глякаваць.

А ты кусай счарсцвелую скарынку
Бяззубы інвалід або ўдава.
У марадзёраў з ценевага рынку
Не забаліць па гэтым галава.

У іх ужо мільярды ў абароце,
Плявадь ім на дзяржаву і закон.
Яны трымаюць у сваёй аброці
І тых, хто ўлез у верхні эшалон.

Ды закрані ці паспрабуй праверыць
Пяшчотныя адносіны радні:
Той мафіі, якая на паверхні,
З той мафіяй, што недзе ў глыбіні.

Закруціцца без рыпу кола згоды,
Што можна і няможна пойдзе ў ход.
І зноўку станеш ворагам народа,
Хоць галаву кладзеш ты за народ...

Глядзіць на нас, разгубленых, з дакорам
Наступны дзень, яго рашаем лёс...
Паўзуць, паўзуць, як вошы, марадзёры...
І хто іх спыніць? Дзе Ісус Хрыстос?

## 9. Вяртанне

Старана мая, ты старонáчка,
Старана мая незабытая,
Не магу цябе прызабыцыся,
Ні ўночы сплючы, ні ўдзень ходзячы.
З народнай песні.

Памёр стары. Сканаў з наказам дзецям,
Які шаптаў аж покуль не заціх:

Вось і ўвесь пейзаж, які штодзённа
Ім відаць з бальнічнага акна.

Хочуць зліцца з небам вачаняты,
Носікі прыціснуты да шкла.
Чорны смерч у белыя палаты
Вынес іх з палескага сяла.

Адарваў ад матчынае ласкі,
Ад любімых гульняў і сяброў.
Дзеці, нібы скошаныя краскі,
Вянуць, бо бяда — хварэе кроў.

Працэдуры, як закон, без слова,
Быццам шмат было іх на вяку.
Падстаўляе пацыент чарговы
Тоненькую, лёгкую руку.

Ён маўчыць, хоць вусны пабялелі,
Ён трывае лепей, чым стары.



Раскіданае гняздо... Фотаэцюд Я. КАЗЮЛІ.

«Ніколі... не бадзяўся я... па свеце....
Хачу ляжаць... на могілках... сваіх...»
Не ведаў ён, якая цяганіна
Пачнецца для журботнае радні.
Спачатку не выпісвалі машыну,
Хоць сотню вёрст агорвай на кані.
А потым не пускалі іх у зону,
Ноч адбылі ў машыне ля труны.
І ўсё ж былі вароты адамкнёны,
І да пагоста рушылі яны.
Высокі бор стаяў жалобнай вартай...
І сын сказаў пасля такіх трывог:
«Нічога, бацька... Мы — народ упарты.
І ўсё-ткі ты ў пясочак родны лёг...»
У зоне пуста. Толькі вінаваты,
Як спадцішка, дымок над камінком.
Старыя людзі засялілі хату,
Жывуць сабе, як схімнікі, крадком.
На ўсе ўгаворы дзед махае кіем:
«Нікуды! І дарма агітаваць.
А вашы тры чырвонцы грабавыя
Не трэба. Дайце век дагараваць!..»
І сырадой бабуля зноўку цэдзіць
У спрытныя старыя гарлачы,
І з малаком цячэ праз марлю цэзій...
Хто ў гэтым лёсе можа памагчы?..
Хоць зараслі дарогі палявыя,
Хоць у бары зязюльчын голас змоўк,
Перасяленцы — мёртвыя, жывыя —
Вяртаюцца,
вяртаюцца
дамоў...

## 10. Пераліванне крыві

Кроў — не вада, разліці шкада.
З народнай песні.

На зялёнай клумбе мак чырвоны,
А далей — бетонная сцяна.

Мо таму слязой і накіпелі
Вочы маладзенькай медсястры.

З вены кропельку знімае ватай,
І руку бінтуе, і тугу.
Каб не ўчулі, шэпча вінавата:
«Болей не магу я... не магу...»

## 11. Страх

Біце камень, біце,
Агню даставайце.
З народнай песні.

Хоць выйшлі на свята з глухіх скляпенняў,
Але яшчэ адкрыць баімся вочы.
З палёгкай выціснуць з душы здранцвенне
І рабскую пакорлівасць не хочам.

Такія мы. На гэта ёсць прычына —
Жылі ў краіне лагернай, астрожнай,
Жывёльны страх перад плюгавым чынам
Звіваў сабе гняздо ў крывінцы кожнай.

Стаў нацыяналізм тутэйшай тэмай,
Як шуфлем, лепшых пад яго гарнулі,
Пяклі з даносаў справы на «нацдэмаў»,
Дзе кропку у канцы стаўляла куля.

А зверху над цівунскім, хіжым збродам
Стаяў «наш бацька» самай строгай вартай.
Ён не людзей, а цэлыя народы
Знішчаў ці тасаваў, як шулер, карты.

І чорны воран баляваў начамі,
Ён каркаў і вучыў усіх без стомы,
Што можна выйсці ў «людзі», у «начальства»
Цаною здрады самаму святому.

(Працяг на стар. 10).

(Пачатак на стар. 8—9).

Сваімі крыламі ў крыві пялёхаў,
Іх развінаў над лёсамі з размахам.
І так дзядоў, бацькоў ён запалохаў,
Што праўнукам яшчэ дрыжаць ад страху.

Ды вось глыток жаданае свабоды,
Свабоды мудрых думак, творчай працы.
І кожны можа для свайго народа,
Для будучыні нашай пастарацца.

Рабочыя, сяляне, інжынеры,
Вучоныя, настаўнікі, паэты —
Мы ўсе адна сям'я з высокай верай...
Калі ж, нарэшце, зразумеем гэта?

Зноў дзеляць нас на чыстых і нячыстых,
Запрэгчы хочуць у старую збрую.
Не толькі ў скверах з кульбай —
сталіністы,
Яны яшчэ і судзяць, і кіруюць.

А з імі тыя, хто ў сваё карыта
Дабро піхаў, каб аж падняўся копчур,
Хто кроў смактаў з дзяржавы і адкрыта
Ёй гандляваў у розніцу і оптам.

І чорны крук не адляцеў далёка,
(А век у гругана гадоў пад. трыста!),
Глядзіць, глядзіць сваім крывавым вокам,
Дзе ў зрэнцы помста свеціцца агніста.

Хто праўду скажа, тым — праклён,
пагрозы.
Хай далей пад дуду былую скачуць!..

Калі памёр тыран, ліліся слёзы...
Чаму па мове, мой народ, не плачаш?

Чаму не скажаш: «Патрабую школы
Вярнуць, і ўсё, што з імі заняпала.
Каб годна, вольна ў гарадах і сёлах
Маё святое слова загучала»?

Чаму не хочаш з крыўдаю змагацца
І галаву ўгінаеш моўчкі ў плечы,
Калі зямлю — на ўсе вякі багацце —
Дачаснікі і труцяць, і калечаць?

Чаму не разумееш і дагэтуль,
Што ловішся на простую нажыўку,
Калі табе з чыноўных кабінетаў
Даюць падпісваць зжоўклую фальшыўку?

Ты столькі вынес і пакут, і гора,
Што заслужыў навечна, назаўсёды
Мець лёс не нарыхтоўчае канторы,
А роўнага між роўнымі народа.

Сыноў, што з верою жыццё вянчалі,
Ці ж мала Беларусь узгадавала?
Стаяць, як знак ахоўны, за плячамі
Скарына, Каліноўскі і Купала.

Народ мой, слухай голас іх прарочы,
Ён не дарма трывожыць гаркатою.
Прачніся, адкрывай шырока вочы,
Іх не асляпіць праўдаю крутою.

Калі ж і зараз ты не загукаеш,
А будзеш жыць пад страхам і прынукай,
Чарнобыль не такі яшчэ чакае
Тваю зямлю,
тваіх дзяцей
і ўнукаў...

## 12. Віна

Трава палягла, журба абняла.
З народнай песні.

Жыццё пакутамі аплоціш,
Яму не трэба ні граша...
Як птушка, б'ецца ў клетцы плоці,
Баліць, шчыміць мая душа.

За ўсё павінна быць расплата,
З зямлі сваёй куды ўзляціш?
І мусіш, хоць невінаваты,
Чужых злачынстваў несці крыж.

Я вінаваты, вінаваты,
Бо гвалт і здзек не змог спыніць.
Той кожны стрэл у Курапатах
Адчаем у грудзях звініць.

Я вінаваты, бо калеюць
Людскія сэрцы — сівер дзьме
Адтуль, дзе костачкі бялеюць
На Салаўках і Калыме.

Я вінаваты, бо наўкола
Упадак духу так відаць,
Што продкі гнеўныя свой голас
З магілаў змушаны падаць:

«А тым, хто мову, род адрынуў,
Як подлы раб, сагнуўся ў крук,
Настаў свой меч паміж рабрынаў,
Цаляй туды, дзе сэрца стук».

Я вінаваты, бо атрутай
Засыпала маю зямлю,
А я, адданасцю прыкуты,
Яшчэ мацней яе люблю.

Я вінаваты, бо ў заторах
Сваіх грабежніцкіх уцех
Згубіў сябе, сабе ўжо вораг
Сам чалавек,
і быць ім — грэх.

Таму вяду з душой гаворку,
Гляджу ў нябёсы ўсё часцей,
Бо назірк палыновай зоркі
Змушае жыць святой, чысцей.

Душы, затурканай, знямелай,
Нялёгка загартоўваць дух,
Каб выйсці ў свет, вярнуцца ў цела,
І разарваць замкнёны круг.

Але яна смялее гонка,
Каб далеч волі адкрываць,
Як карабельная сасонка,
Што можа небу паківаць.

Багоў няма. Стварылі самі
Мы ўвесь наменклатурны штат,
Каб потым стаць прад іх вачамі
І выканаць любы загад.

Праз цемру рабства пакаленні
Прайшлі, каб кожны ўведаць змог,
Што толькі ўласнае сумленне —
І першы, і адзіны бог.

Так і жыву. Жыццё — віною.
Не час, а кроў мая цячэ.
І тое, што было са мною,
Усё паўторыцца яшчэ...
Паўторыцца яшчэ...
Яшчэ...

## 13. Палыновая зорка

Ой, палын мой, палыночак,
Палын — горкая трава,
Гарчэй цябе, палыночак,
Ва ўсім полі ды няма.
З народнай песні.

Пад ветрам сівая трава,
Як дым,
наплывае пад ногі...
Сівее мая галава.
Не можа пазбыцца трывогі.

Як волі,
паветра глыну,
Ды стане не светла, а горка.
Паўсюль даўкі пах палыну
І ў небе—распятая зорка.

Глядзіць Беларусь на мяне,
Чарнеюць кругі пад вачыма.
Народ можа верыць мане,
Зямлю падмануць немагчыма.

Нібы да грудзей немаўля,
Да родных пагоркаў тулюся.
Збалелая маці-зямля,
Я толькі табе павінюся.

Не хочацца класціся ў дол,
Не маючы ў сэрцы надзеі,
Што ты саўладаеш з бядой
І верай нашчадкаў надзеліш,

І змогуць яны гаварыць
Прыветліва моваю наскай:
«Дзень добры! Заходзьце, сябры,
У хату да нас. Калі ласка!»

...Маўчыць, нібы камень, зямля,
Палын невядомасцю свеціць...
Што будзе,
што будзе пасля? —
Не скажа ніхто ў гэтым свеце.

Ёсць праўда адна — праўдай жыць,
Няхай і суровай, і горкай...
У небе
над намі
стаіць,
Як зніч,
палыновая зорка.

## Музыка

# МІНОРНЫЯ НОТЫ СВЯТА,
## або Яшчэ раз пра «Мінскую вясну»

I

Звон. Самотны, жалобны. Стрыманы плач флейтаў. Падманліва-ціхія «крокі» і глухія трывожныя перазовы аркестравых галасоў. Маланкавы, як стрэл, барабанны пошчак... Музыка Восьмай сімфоніі Ф. Пыталева скіроўвае ўвагу слухача да тых крывавых «мірных» гадоў, якія забралі безліч нявінных жыццяў. Свой твор кампазітар прысвяціў памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

У праграме сёлетняй «Мінскай вясны» твор гэты быў пазначаны першым. І ўпершыню за сваю шасцігадовую гісторыю наш музычны фестываль пачаўся на такой трагічнай ноце...

Праз дзень у філармоніі адбылася прэм'ера кантаты У. Кандрусевіча «Аблачынка з Чарнобыля» на вершы Г. Бураўкіна і А. Разанава. Таксама трагічная і таксама новая для беларускай музыкі тэма, да ўсяго і ўвасобленая нязвыклым для жанру кантаты почыркам — почыркам аўтара, спрактыкаванага ў тэатральнай і кінамузыцы. А тэма... Што тут гаварыць: напамінак пра яе прымушае задумацца, і тады хваравіта-кволая «аблачынка» быццам мяняе канфігурацыю і набывае ў сваёй свядомасці абрысы ядзернага грыба...

Вось такія былі творы сярод фестывальных прэм'ер. Я перакананая: чалавек з бездакорным слыхам і музычным густам, калі ён толькі не належыць да «пароды таўстаскурых», не будзе ў гэтым выпадку разважаць пра форму развіцця музычнага матэрыялу. Боль многіх жывіў у гэтых творах шчырасць аўтараў. І творы ўспрымаюцца як сённяшнія — вось, бадай, галоўнае.

Увогуле ж, многія мудрыя і вопытныя слухачы не спяшаюцца з ацэнкамі прэм'ер. Нават хаваюць ад старонніх вушэй свае першыя, самыя непасрэдныя, самыя свежыя ўражанні пра новыя творы. Што ж, можа, такая абачлівасць і слушная, асабліва калі нікому не вядомы твор выносіцца на суд публікі «сырым», іграецца амаль з ліста або проста атрымлівае няўдалую інтэрпрэтацыю. Тады публіка паводзіць плячыма, крытыкі нацягваюць маскі дыпламатаў, самі аўтары нервуюцца, іхнія калегі цешацца ціхай радасцю, а выканаўцаў ахоплівае дрымучая абыякавасць.

Можа, таму, што без грунтоўных рэпетыцый была паказана новая, Шостая сімфонія Д. Смольскага, надзіва супярэчлівыя водгукі выказалі пра яе ўдзельнікі дыскусіі ў Саюзе кампазітараў. Можа, таму, што ў вельмі неспрыяльны (паводле звестак метэаслужбы) дзень, ды яшчэ пры амаль пустой зале, праходзіў канцэрт шырмаўскай капэлы, не загаварылі калегі пра новыя харавыя творы А. Мдзівані, А. Хадоскі. Можа, таму, што не быў цалкам падрыхтаваны да выканання аркестравы Канцэрт В. Кузняцова і гучала без аніякіх тлумачэнняў, нават без папярэдняй абвесткі вядучага, толькі сярэдняя частка твора, партэр збянтэжана перашэптваўся. Можа? Можа...

Аднак, нягледзячы на

## Тэатр

# Незавершаны сюжэт

**Імгненні II Беларускага тэатральнага фестывалю**

*(З БЛАКНОТА КРЫТЫКА)*

ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ мы зноў сустрэліся. Акцёры, мастакі, чыноўнікі, крытыкі, рэжысёры, іншы тэатральны народ. За гэты час кагосьці напаткала ўдача, камусьці, наадварот, не пашчасціла. Ды ці ж мала адбылося за гэты час самага рознага — і радаснага, і прыкрага?

Але мне тут хочацца акцэнтаваць не зменлівасць, а менавіта пастаянства — «мы зноў сустрэліся». Я, вядома, не схільны перабольшваць ступень кансалідаванасці нашай тэатральнай грамадскасці і зусім без замілавання стаўлюся да некаторых нораваў. І ўсё ж...

«У мяне ўражанне, што, пачынаючы з пэўнага ўзросту, у людзей тут, ва ўсялякім разе ў тэатральным асяроддзі, знікае імпульс да прадаўжэння жыцця», — гэтае назіранне, зробленае Пітэрам Брукам пад час аднаго з візітаў у нашу краіну, насцярожвае. І, магчыма, фестываль, які мы гады ў рады вымучваем пры беднасці нашай, звышзадачай сваёй якраз і мае выяўленне імпульсаў да таго, каб і заўтра — **рабіць тэатр!**

МАСТОК праз тры гады, паміж фестывальнымі 86-м і 89-м, перакінулі коласаўцы. Думаецца, згадваючы наш першы вопыт тэатральных агледзін у Віцебску, усё ж больш правільна будзе арыентавацца не на «агульны ўзровень», а на «Вечар». Спектакль Дударава — Мазынскага не даводзіў, як трэба ставіць нацыянальную драматургію і нават ці трэба яе ставіць увогуле. Спектакль не быў аргументам, ён... быў. Тры акцёры дазвалялі сабе раскошу іграць падрабязна, няспешна, працягла. Іх героі спраўлялі развітальны абрад і, разам з тым, былі заложнікамі жыцця на закінутым богам і людзьмі лапіку зямлі. А таму — чакалі. «Глядзі, нехта ідзе да нас...» Сёння мне здаецца, што ціхі той спектакль — крычаў.

Ніхто не прыйшоў... Але гэта ўжо іншы спектакль, паказаны сёлета на фестывалі, «І быў дзень» А. Дудара ва ў пастаноўцы В. Мазынскага. Тут не чакаюць — прагнуць, «взыскуют»: «Ты хто? — Чалавек. — Заходзь...» Гэта рэфрэн і нерв новай работы коласаўцаў.

Пасля прачытання п'есы мне падалося, што яна напісана разгубленым чалавекам. Нават у падвоеным загалоўку (раней для Дударава неўласцівым) — «І быў дзень (Звалка)» — няўпэўненасць. Але, як высветлілася, з супярэчлівасці выкрасаецца энергія, прычым Мазынскі

тое, што месца ў душнай перапоўненай зале дасталася «з боем», што побач апынуліся людзі, для якіх білеты на дэфіцытны канцэрт даражэй, чым само мастацтва, што спехам складзеная праграма аказалася даволі груваскай, цяжкай для ўспрымання за адзін вечар. Нягледзячы на ўсё гэта, меламаны не хавалі свайго першага захопленага ўражання ад Фартэпіяннага канцэрта А. Шнітке (Дзяржаўны камерны аркестр БССР, дырыжор В. Палянскі, саліст І. Худалей). Ці, скажам, у тым жа зусім не святочным выступленні шырмаўцаў вылучылі «Першае пасланне да карынфянаў святога апостала Паўла» — літургічнае спяванне А. Эшпая. Нягледзячы на «небяспечнасць выказванняў» пад уражаннем першага выканання, ухвалялі прэм'еры маладых аўтараў: кантату С. Бельцюкова «Вандроўнікі» (вершы Я. Коласа і М. Танка), камерныя творы Я. Паплаўскага, А. Шушкевіч, У. Кур'яна, В. Кузняцова, Л. Сімаковіч...

Невытлумачальныя парадоксы ўспрымання і «дыпламатычнай» крытыкі!

## II

За «круглым сталом» фестывалю музыказнаўца Т. Шчарбакова адзначыла як дадатную рысу яго інфармацыйную функцыю: ужо не толькі навінкі беларускай музыкі, але і тое, што адбываецца ў іншых рэспубліках, што зроблена замежнымі кампазітарамі, можна пачуць на «Мінскай вясне».

Так, глянькма на сёлетнюю афішу: амаль усе творы выконваліся ў Мінску ўпершыню. А гэта дае свежыя эстэтычныя арыенціры і нашым творцам, і публіцы. Праўда, як тады ж заўважыла Т. Шчарбакова (і ў яе нямала аднадумцаў), у досыць вялікай і неаднароднай чарадзе твораў, прадстаўленых на фестывалі, былі і такія, без якіх святочная афіша магла б абысціся. Дарэчы, і арганізатары «Мінскай вясны» бачаць актуальнасць фестывалю не ў тым, каб выдаць на публіку пад шыльдай «Мінскай вясны» ўсё, што напісана к сённяшняму дню. Трэба адбіраць сугучнае гэтаму дню і лепшае. Але тут у філармоніі, як распавядаў яе мастацкі кіраўнік Ю. Гільдзюк, цяжкасці з пошукам высакакласных выканаўцаў. Год рыхтуецца фестываль, але жыццё як заўсёды нечпадзявана карэкціруе самыя прадуманыя і рэалістычныя планы.

З адборам музыкі беларускіх аўтараў свае праблемы. Для строгага адбору павінен быць і варты таго выбар твораў. Фестываль — не справаздачны паказ творчых секцый Саюза кампазітараў БССР. Не ўсё павінна тут гучаць. Ужо не ўпершыню, але па-ранейшаму не надта рашуча ўзнімаюць арганізатары «вясны» пытанне: можа, варта апрабоўваць новыя творы буйных жанраў на «музычных серадах» у саюзе і на кампазітарскіх пленумах (як гэта было, дарэчы, з новай сімфоніяй Ф. Пыталева)? Там і ацэньваць іх і даваць пуцёўку на фестываль, а не «рабіць адкрыцці» разам з публікай. Відаць, і пад час фестывалю не зашкодзіла б па гарачых слядах абмяркоўваць канцэрты — з удзелам аўтараў, выканаўцаў, прэсы, музыкантаў - тэарэтыкаў. Дзяліцца свежымі ўражаннямі, спрачацца — шчыра, без узаемнай крыўды...

Але давайце перавядзём дух і ўспомнім, што музыка XX стагоддзя, і непаўторная, і банальная, варыцца ва ўласным соку на нашым фестывалі. Слушна гаварыў на дыскусіі кампазітар С. Картэс: з наведваннем канцэртаў становішча проста трагічнае! І нават адбор твораў нічога не зменіць. Аншлагі на вечары песні А. Пахмутавай і І. Лучанка і на аўтарскім канцэрце А. Шнітке абумоўлены не якасцю саміх праграм, тут прычына нейкая іншая, звязаная хутчэй з масавай псіхалогіяй. (Няцяжка дапусціць, што прыток публікі на канцэрт з твораў А. Шнітке быў бы значна меншы, калі б не выдатная рэклама, зробленая пад папулярнай рубрыкай «Тэлевізійнае знаёмства»).

Перадам амаль даслоўна яшчэ адно меркаванне С. Картэса. Яго здзівіла, што ў Мінску, дзе столькі людзей далучана да музыкі (выкладчыкі і студэнты кансерваторыі, інстытута культуры, музвучылішча, ДМШ), на канцэрце не можа сабрацца нават аўдыторыя з прафесіяналаў. Мабыць, таму, што доўгія гады наша музычная адукацыя жывілася ўяўленнямі толькі пра ўстойлівыя традыцыі прафесійнай музыкі і музыкі народнай, мы забыліся на тое, што робіцца ў музыцы сёння? Але ж гэта таксама частка нашай культуры, гэта таксама пэўныя традыцыі, якія заўтра зоймуць сваё месца ў гісторыі.

Занепакоіла некаторых музыкантаў, што нават на канцэрце песні было мала моладзі. Але якраз тут няма нічога дзіўнага: кожны ўзрост мае свае песні. Гэта, дарэчы, падкрэсліў — і без аніякай трывогі — удзельнік таго канцэрта, мастацкі кіраўнік дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі М. Фінберг. Устрывожыла яго іншае. Тое, што большасць філарманічных канцэртаў праходзіла пры амаль пустой зале. Значыць, свята не адбылося. Шукаючы прычыну такога сумнага становішча, М. Фінберг папракнуў тытулаваных выкладчыкаў БДК і Мінскага інстытута культуры. Маўляў, яны не прапагандуюць фестываль сярод насельніцтва, не «ходзяць у народ». Яны не могуць зацікавіць сваіх студэнтаў, дый самі не ходзяць на канцэрты.

Для каго ж тады гучыць музыка? Пра якую пераемнасць культурных традыцый можна гаварыць? Хто і каму будзе перадаваць слухацкі вопыт, свае музычныя ўражанні, факты з жыцця канцэртнага?

Вядома, маладому эстраднаму калектыву не выпадала выступаць у напаўпустых залах (да минет его чаша сия). А фестывальны вечар А. Пахмутавай і І. Лучанка проста расчуліў М. Фінберга сваім фіналам: разам з удзельнікамі праграмы заспявалі і гледачы — ці часта ў наш час убачыш, каб людзі, тым больш адно для аднаго чужыя, спявалі гуртом?

Зрэшты, гэта эмоцыі. А задумаўшыся, успомніш: без сімфанічнай музыкі, без культуры камерных жанраў не будзе і прафесійнай песеннай культуры. Зусім не беспадстаўна трывожыцца дырыжор папулярнага аркестра, які мае сваю публіку, за лёс так званага філарманічнага мастацтва, за лёс агульнай музычнай выхаванасці.

## III

Толькі недасведчаныя людзі лічаць, што на Беларусі не было традыцый узаемадачынення розных відаў мастацкай творчасці, іх носьбітаў і прыхільнікаў. Існавала нейкая «беларуская багема» ці не — справа не ў гэтым. Гурткі, супольнасці, таварыствы беларускай інтэлігенцыі гісторыя занатавала. Сувязі паміж людзьмі духоўнымі не парываліся і не парываюцца ніколі — такі закон жыцця.

І ўсё ж — не разумею.. Ні прысвячэнне новага твора памяці ахвяр, ні чарнобыльскі матыў твора другога, ні імёны слынных паэтаў, чые вершы загучалі ў музыцы, ні нацыянальны каларыт харавых прэм'ер — «Прымхі», «Песні Белай Русі»... Чаму нішто не прывабіла ў залу тых, каго мы ведаем як абаронцаў духоўнасці, роднай гісторыі, мовы?

Гэта не папрок ім. Гэта проста факт для роздуму. Відаць, штосьці заўсёды на пераломе стагоддзяў адбываецца з людзьмі, з чалавекамі, неўразумелае для іх...

Канчаецца знерваванае, стомленае XX стагоддзе. Можа, і мы стаміліся разам з ім? Ад асабістых эмацыянальных перагрузак, грамадскіх катаклізмаў, інфармацыйных штормаў, капрызаў надвор'я?...

Сумленне ўжо не дазваляе мне закончыць гэтыя нататкі банальным мажорным акордам. Я проста выкажу надзею, што ўсе тыя светлыя матывы «Мінскай вясны», якія можна было пачуць і слыхам, і сэрцам, узмацуюцца праз год, узбагацяцца свежымі падгалоскамі. Фестываль гэты па сутнасці сваёй перспектыўны. Бо дзе як ні на канцэртах «Мінскай вясны» пачуеш столькі прэм'ер. А ўсе прэм'еры, у рэшце рэшт, адлюстроўваюць супярэчлівы, складаны гукапіс часу, у які нам выпала жыць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

---

робіць гэта па-тэатральнаму элегантна. Разам з мастаком Л. Герлаван рэжысёр амаль без купюр увасобіў першую рэмарку п'есы — уяўленне драматурга пра месца дзеяння: звалка, сметнік, дзе знайшлі прытулак «паралельныя» людзі, бадзягі-бамжы, — і яшчэ раз скарыстаў яркі сцэнаграфічны вобраз «Вечара», прасла-буслянку. сцяжыны-промні, што разыходзяцца ад калодзежнага зруба... Гэта і вызначыла атмасферу, гучанне «дня пасля вечара». І яго кульмінацыю, тым больш драматычную, што акрэсленую рэжысёрам далікатна, без надрыву. У калодзежы, з якога некалі Мульцік чэрпаў жывую ваду, утапіўся чалавек. Як жа яго звалі?.. Здаецца, Вася...

МНЕ МОГУЦЬ запярэчыць, маўляў, хто з гледачоў будзе супастаўляць спектаклі, паміж якімі некалькі гадоў? Тым больш, што на фестывальным абмеркаванні гучалі сур'ёзныя прэтэнзіі і да п'есы Дударава, і да спектакля Мазынскага, а шчодрае журы нават раздаючы так званыя прызы грамадскіх арганізацый не ўспомніла работу коласаўцаў... Што сказаць? Па-першае, я ні з кім не спрачаюся. Па-другое, у адрозненне ад журы, якое вымушана дзяліць узнагароды, безадказны крытык часам усе галоўныя прызы гатовы аддаць за імгненне сапраўднага, не «гідрапоннага», тэатра. Іншая справа, што і безадказнаму крытыку сёлета было няпроста.

Шэраг спектакляў абнадзейваў, сведчыў пра пашырэнне зоны тэатральных пошукаў і сур'ёзнасць творчых намераў. Відавочныя былі прыкметы рэжысёрскай сталасці В. Мазынскага. Уменнем вынайсці яркае відовішча, здавалася б, з нічога прывабіў дэбют В. Катавіцкага («Неверагодны ілюзіён Эрні»). Дасканаліў сваё тонкае, іранічнае пісьмо М. Пінігін («Жыццё Карыцына»). «Усё тыя ж» В. Раеўскі і Б. Луцэнка пераконвалі ў жыццёвасці сваіх уяўленняў пра тэатр («Страсці па Аўдзею», «Гамлет»). Нават «шаманства» М. Трухана («Роспач»), дзеля якога наўрад ці трэба было прэпарыраваць паэтычную тканіну твораў Караткевіча, не хацелася б лічыць марным...

Рэжысёры сцвярджалі сваё аўтарскае права.

ПОСПЕХ лепшых спектакляў В. Раеўскага на купалаўскай сцэне заўсёды вызначала цэльнасць. Між іншым, калі яе ўдавалася дасягнуць, ніхто не папікаў рэжысёра, «статыкай», «франтальнымі мізансцэнамі», хоць, здавалася б, вось яны, тыя мізансцэны...

Раеўскі працуе на манер скульптара. Так, ён часам дазваляе сабе рабіць гіпсавыя адліўкі, але, калі падыходзіць з разцом да «пароды», ягоная рука цвёрдая.

І нават на фоне зробленага рэжысёрам раней спектакль «Страсці па Аўдзею» вылучаецца аскетызмам.

Многае тут, вядома, ідзе ад п'есы У. Бутрамеева, напісанай стрымана і лаканічна. Дзея рухаецца размераным чаргаваннем ёмістых эпізодаў з сялянскага жыцця — купля малатарні, трапеза за сямейным сталом, вечарынка, заручыны і г. д., — кожны з якіх поўніцца не толькі побытам, набывае абагульнены сэнс. І гэта дазваляе рэжысёру ўзняцца над рэаліямі (у іх захаванні ён упэўнены, ведаючы сваіх акцёраў).

Бяда, што няўмольна насоўваецца на хутар Аўдзея і знакі якой гаспадар упарта не заўважае, мае амаль біблейскую назву—«здзвіжанне». Не калектывізацыя, не раскулачванне — здзвіжанне, працэс настолькі глабальны, што перад яго аблічам Аўдзей губляе інстынкт самазахавання. З першых эпізодаў ён робіць «не тое». Купляе, замест таго, каб распрадаваць. Паўстае, а трэба сядзець ціха. Збіраецца жыць, калі ўжо і не выжыць.

Герой Г. Аўсяннікава не падобны на свой лёс. Менавіта на гэтым зломе ўзнік спектакль купалаўцаў — плач па Аўдзею, наіўным чалавеку, які дазволіў сабе паверыць, нібыта ён гаспадар на сваёй зямлі.

ЦІКАВА — ці трапіў бы на фестываль «Гамлет», пастаўлены Б. Луцэнкам у Тэатры - студыі кінаакцёра, калі б не ліквідацыя Дзяржкіно БССР? Калі б не трапіў, то перабудову сістэмы кіравання культурай можна толькі вітаць. Хоць, папраўдзе, не магло быць прэтэнзій да былога кінаведамства і раней. Бо не па тэатру перастаў «лічыцца» Луцэнка, а ўсяго толькі па тэатральнаму ведамству. Каму ад гэтага стала лепш, каму горш?

У мінулым нумары «ЛіМа» Б. Бур'ян, згадваючы свае журналісцкія сустрэчы з Л. Літвінавым, прывёў такія словы рэжысёра: «Талент патрабуе сатысфакцыі». Не ведаю, ці з'яўляецца «сатысфакцыяй» галоўны прыз II Беларускага тэатральнага фестывалю. Але, мяркую, прыз гэты важкі, «канвертуемы» яшчэ і таму, што дастаўся «Гамлету».

Праз некалькі дзён я зноў убачу спектакль Б. Луцэнкі — у Вільнюсе. Тэатр-студыя кінаакцёра ўдзельнічае сёлета ў «Прыбалтыйскай тэатральнай вясне», і, думаецца, з неблагімі шанцамі на поспех у прэстыжным творчым спаборніцтве. І таму больш падрабязную гаворку пра «Гамлета» я вырашыў пакінуць для сваіх будучых, вільнюскіх нататак.

А ў гэтых, гродзенскіх, адзначу, што з усяго народжанага нашым тэатрам за апошні час спектакль Луцэнкі адметны найбольш поўнай увасобленасцю. Тут не толькі ўзважаная, да драбніц прадуманая трактоўка шэкспіраўскай (!) п'есы, але і яе рэалізацыя праз вельмі дакладныя сцэнічныя дэталі, праз няспыннасць дзеі. Рэжысёр не скупіцца, дорыць нам багаты тэатр, дзе шмат свежага, нечаканага, уразлівага.

Калі сюжэт гродзенскіх тэатральных агледзін ужо дасягнуў сваёй кульмінацыі, але яшчэ не быў завершаны, я, так сталася, «сышоў» з фестывальнай дыстанцыі. І, натуральна, не магу прэтэндаваць на абагульненні. Але ж менавіта незавершанасць дазваляе спадзявацца на лепшае.

Дзякуючы камандзіроўцы ў Гродна, вырваны са штодзённых «раскладаў», я са здзіўленнем адзначыў у сабе здольнасць і патрэбу ператварыцца ва ўдзячнага тэатральнага гледача. Нават крыху напалохаўся, а ці не прапусціў я нешта істотнае ў жывым працэсе, толькі рэгіструючы тыя або іншыя яго падзеі, успрымаючы іх паасобку? Бо, прызнаюся, убачанае на фестывалі выклікала павагу да нашага тэатра.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

---

# «ІМЯНІНЫ» ДЖАЗ-КЛУБА

**Трыма канцэртамі, якія атрымалі назву «Джаз-імяніны», было адзначана 12-годдзе Мінскага джаз-клуба. Канцэрты прайшлі ў клубе МВА імя У. І. Леніна, у іх удзельнічалі біг-бэнд Палаца культуры Белсаўпрофа пад кіраўніцтвам В. Сердзюка, дыксіленд «Рэнесанс», вакальны ансамбль «Скэт-гол» пад кіраўніцтвам А. Шыкунова, квінтэт І. Сафонава. Выступілі і госці: дуэт І. Малініна — С. Левізаў з Мінскага клуба гітарыстаў і джаз-трыо У. Жданука з Гродна. Адбылася лекцыя пра колішні Дзяржаўны джаз-аркестр БССР і яго кіраўніка Э. Рознера. Фотамастак А. Нямыцкі прадставіў работы з калекцыі «Джазавыя партрэты».**

**Упершыню канцэрты ў джаз-клубе адбыліся пры дапамозе Мінскага гарадскога аддзялення Музычнага таварыства БССР. Гэта невыпадкова. Пры Усесаюзным музычным таварыстве ўжо ўтворана савецкая джазавая федэрацыя, якая аб'яднала прафесійных выканаўцаў і аматараў джаза. Распачалася работа па стварэнні джазавай федэрацыі ў Беларусі. Таму і грашовы збор ад «імянінных» канцэртаў пералічаны ў гарадскую арганізацыю Музычнага таварыства.**

# УДАКЛАДНЕННЕ

**У лісце з Рыгі Н. Камілеўскай, надрукаваным у нумары за 24 сакавіка г. г., па віне супрацоўніка рэдакцыі пераблытана назва беларускага культурнага цэнтра, які нядаўна ўзнік у сталіцы Латвіі і адказным сакратаром якога з'яўляецца аўтар ліста. Сапраўдная назва цэнтра — «Раніца». «Світанак» — гэта назва другога беларускага культурнага таварыства, якое існуе ў Рызе. Пра яго дзейнасць раскажа неўзабаве ў «ЛіМе» адзін з яго заснавальнікаў і кіраўнікоў, наш даўні аўтар Вячаслаў Целеш.**

**За дапушчаную неахайнасць просім прабачэння ў аўтара ліста і чытачоў.**

**Працэс нацыянальнага адраджэння народаў нашай краіны пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі пачаўся нябачнымі тэмпамі. Нацыянальнае адраджэнне поўным ходам адбывалася і ў Беларусі, на чале яго стаялі партыйныя і савецкія кіраўнікі рэспублікі, якія праяўлялі высокую самасвядомасць і адказнасць перад часам. Яны разумелі, якое непераўзыдзенае значэнне для лёсу беларускай нацыі і ўсёй рэспублікі мае клопат аб развіцці нацыянальнай мовы і культуры. Але, на жаль, завяршыцца гэтаму працэсу не дазволіла рука «правадыра ўсіх часоў і народаў».**

**Прапануем увазе чытачоў артыкул выкладчыка Мінскага інстытута культуры А. Цітова пра першыя крокі нацыянальна-культурнага адраджэння ў Беларусі.**

*Гісторыя і сучаснасць*

# Так пачыналася адраджэнне...

Пасля ўстанаўлення Савецкай улады ў Мінску натуральна ўзнік шэраг пытанняў, звязаных з нацыянальна-культурным будаўніцтвам у Беларусі. Вырашэнне іх ускладнялася той акалічнасцю, што ў 1921 годзе ўся Савецкая Беларусь месцілася ў межах шасці паветаў былой Мінскай губерні. Таму аднымі з галоўных праблем адраджэння былі тэрытарыяльнае пытанне і выхад беларускай мовы з-пад страхі сялянскай хаты на шырокі дзяржаўны прастор. Гэтыя фактары былі першаснымі для адраджэння нацыі і пераўтварэння яе ў сацыялістычную. Прычым, як сёння здаецца, пытанне вяртання грамадзянскіх правоў мове з'яўлялася найбольш вострым і важным, бо без ягонага вырашэння нельга было весці размову пра ўсе іншыя праблемы.

Вельмі важнай падзеяй у справе адраджэння нацыі была XII Усебеларуская партканферэнцыя (1923 г.). На ёй было падкрэслена, што Савецкая Беларусь можа хутка адрадзіцца толькі пры ўмове ўваходжання ў склад Беларусі ўсіх беларускіх зямель, шырокай дэцэнтралізацыі ў галіне кіравання прамысловасцю, актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве працоўных мас, правядзення культурна-асветніцкай работы на мовах народаў, якія тут жывуць (беларускай, яўрэйскай, польскай і рускай).

Занепакоенасць станам беларускай культуры была ў цэнтры ўвагі ўрадавых органаў рэспублікі. На III сесіі ЦВК і Саўнаркома А. Р. Чарвякоў гаварыў: «Мы прынялі ўсе меры да таго, каб даць беларускай нацыянальнай культуры магчымасць свабоднага развіцця, абмежаваўшы яе ад уплываў варожых фактараў».

Беларускай культуры неабходна было стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для яе развіцця. Гаворкі аб стварэнні такіх умоў маглі застацца толькі гаворкамі, калі б яны не падмацоўваліся рэальнымі справамі і канкрэтным прыкладам. Так, мова можа быць дзеючым інструментам толькі тады, калі ёй карыстаюцца на ўсіх узроўнях грамадства. Гэта добра разумела кіраўніцтва рэспублікі, таму і рабіліся канкрэтныя захады і падаваўся асабісты прыклад. Беларусізацыя апарату ЦВК і Саўнаркома рэспублікі, як паведамляла газета «Звязда» (№ 276), павінна была быць закончана да 1 студзеня 1925 г.

**Пры ЦВК была створана камісія для праверкі ведаў па беларусізацыі ўрадавых устаноў рэспублікі. Пры гэтым праводзілася праверка падрыхтаванасці народных камісарыятаў да вядзення ўсёй работы на роднай мове не толькі беларусаў, але і яўрэяў, палякаў, рускіх і іншых нацыянальнасцей у БССР. Як выявіла праверка НКУС, 92 працэнты супрацоўнікаў апарату авалодалі беларускай мовай, гэта былі істотныя зрухі, бо папярэдняя праверка выявіла толькі 15 працэнтаў тых, што валодалі мовай. Нацыянальная камісія прапанавала адміністрацыі Народнага камісарыята ўнутраных спраў прыняць самыя сур'ёзныя меры да тых, хто не ведае мовы, аж да звальнення іх з працы.**

**Для праверкі ведаў на месцах працавалі акруговыя нацкамісіі, створаныя з работнікаў культурна-асветніцкіх устаноў. Яны арганізоўвалі гурткі па вывучэнні беларускай мовы і курсы беларусазнаўства, на якіх вывучаліся гісторыя, літаратура, геаграфія рэспублікі. У 1926 годзе, напрыклад, у Мазыры існавалі курсы беларусазнаўства, якія наведвала 242 чалавекі. Увогуле, у акрузе на той час было 314 беларускіх, 14 яўрэйскіх, 5 польскіх і 3 нямецкія школы, у самім горадзе—2 школы з беларускай мовай навучання. У Азарыцкім раёне той жа акругі ўсе школы ў 1926 годзе перайшлі на беларускую мову навучання, як прадмет яна выкладалася ў яўрэйскіх школах. Цяга да беларусізацыі назіралася з боку сельсаветаў. Для вывучэння беларускай мовы ў раёне былі арганізаваны 4-месячныя курсы.**

**Вялікія намаганні прыкладаліся і ў Чэрыкаўскім раёне Калінінскай акругі. Праца па правядзенні нацыянальнай палітыкі на Чэрыкаўшчыне распачалася ў кастрычніку 1924 года. Узімку 1925 г. былі арганізаваны курсы па беларусазнаўстве для настаўніцтва, працаўнікоў савецкіх устаноў і г. д. Курсы далі добрыя вынікі. Адчуваўся інтарэс слухачоў да паглыблення сваіх ведаў у галіне беларусазнаўства, у вёсках было створана 30 беларускіх гурткоў. Работа школ у 1925-26 навучальным годзе была пераведзена на беларускую мову. Усе прадметы як у вясковых (пачатковых), так і ў школах-сямёхгодках вяліся па-беларуску. За перыяд з сакавіка па жнівень 1925 г. усе ўстановы раёна цалкам перайшлі на беларускую мову.**

**Хуткі пераход на беларускую мову адбыўся ў Старадарожскім раёне Слуцкай акругі, дзе ў 1927 годзе райвыканком і ўсе сельсаветы працавалі на роднай мове.**

Імкненне насельніцтва да вывучэння мовы адзначалася ў прамове З. Жылуновіча, які на VIII Усебеларускім з'ездзе Саветаў гаварыў: «У некаторых месцах з беларускім жыхарствам, якія не належалі да Беларускай Савецкай Рэспублікі, справа беларусізацыі ішла саматугам, з поўнае згоды працоўных гушчаў. Да далучэння ў Гомельшчыне працавала амаль што паўтараста народных школ на беларускай мове».

Узбуйненне тэрыторыі Савецкай Беларусі далучэннем Полаччыны, Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны садзейнічала кансалідацыі беларускай сацыялістычнай нацыі, спрыяла яе эканамічнаму і культурнаму развіццю.

Аб'яднанне беларускіх зямель было толькі адным з крокаў на шляху адбудавання нацыі. Трэба было яшчэ вярнуць народу і нацыянальную свядомасць. Частка партыйных і савецкіх работнікаў Віцебскай і Гомельскай губерняў, стоячы на вялікадзяржаўных шавіністычных пазіцыях, была супраць уз'яднання гэтых рэгіёнаў з БССР. Прынцыповая ацэнка ЦК РКП(б) у маі 1923 года вымусіла іх падпарадкавацца.

На канец 1925 года праверка акруговых і раённых устаноў рэспублікі паказала, што 45 працэнтаў служачых не ведаюць беларускай мовы.

На Полаччыне, як і па ўсёй рэспубліцы, былі створаны курсы для служачых савецкіх устаноў. Было вырашана прымаць рашучыя меры да тых, што не жадаюць яе вывучаць. Гэтыя захады прынеслі плён: менш чым праз год старшыня Полацкага акрвыканкома Браўковіч у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» падкрэсліў, што апарат акрвыканкома, райвыканкомаў Полацкай акругі пераведзены на беларускую мову.

Як адзначалася ў рэзалюцыі, прынятай 9 кастрычніка 1926 г. на пленуме ЦК КП(б)Б па нацыянальнай палітыцы, «настаўніцтва павярнулася да партыі». Адначасова падкрэслівалася, што ў сувязі з беларусізацыяй апарату савецкіх устаноў русіфікаваная частка інтэлігенцыі рэагуе ўзмацненнем вялікадзяржаўных настрояў у сваім асяроддзі, намагаецца так або інакш затрымаць правядзенне мерапрыемстваў у гэтай галіне. Сабатаж у правядзенні беларусізацыі праводзіўся ў розных формах. Напрыклад, у Барысаве, як паведамляў адзін з рабкораў «Звязды», у бібліятэцы рабочага клуба маюцца кнігі на рускай і яўрэйскай мовах, а на беларускай няма; калі рабочыя патрабуюць кнігі на беларускай мове, ім адказваюць: няма грошай на набыццё беларускай літаратуры. Як правільна мяркуе рабкор, «тут справа не ў сродках (ёсць жа яны на набыццё расейскіх і яўрэйскіх кніг), а ў тым, што кіраўнікі ніяк не хочуць «прызнаць» беларускую мову».

У адпаведнасці з пастановай урада рэспублікі ад 18 верасня 1926 года беларусізацыя ва ўстановах азначала праверку ведання мовы і здольнасці служачага працаваць на ёй. Але бывалі выпадкі, калі нацкамісіі наладжвалі дадатковыя іспыты па веданні гісторыі, літаратуры, геаграфіі. І гэта ў той момант, калі далёка не ўсе служачыя не мелі не толькі вышэйшай, але нават і сярэдняй адукацыі. Пры гэтым іспытам падвяргаліся і тэхнічныя работнікі — кур'еры, прыбіральшчыцы і г. д. Такі бюракратычны падыход больш шкодзіў справе, чым дапамагаў.

Справа беларусізацыі працягвалася, і з новага 1927 г. была ўведзена новая сістэма і форма справаводства органаў ЗАГСа. Усе актавыя кнігі, бланкі пасведчанняў павінны былі весціся толькі на беларускай мове.

**Пастанова II сесіі ЦВК БССР шостага склікання канстатавала, што ўведзена «выкладанне на беларускай мове ў першых трох групах сямёхгодак і чатырохгодак, у астатняй жа частцы БССР усе (быўшыя расейскія школы) сямігодкі і чатырохгодкі поўнасцю пераведзены на беларускую мову. Ва ўсіх сямі- і чатырохгодках, дзе вучацца дзеці небеларускай нацыянальнасці, з 1925/26 навучальнага года ўведзена беларуская мова як прадмет з другога года навучання» («Звязда», 1926 г., № 154). Крыху пазней была выдадзена другая пастанова Народнага камісарыята адукацыі БССР аб тым, што ўсе настаўнікі і загадчыкі хатаў-чытальняў Гомельскай і Рэчыцкай акруг павінны да 1 верасня 1928 г. вывучыць беларускую мову.**

**Увогуле ў 1926/27 навучальным годзе ў Беларусі было 4576 нацыянальных школ з 4 і 7-гадовым тэрмінам навучання. Сярод іх — 4201 беларуская, 189 яўрэйскіх, 117 польскіх, 40 рускіх, 19 латышскіх, 3 нямецкія, 6 літоўскіх і 1 эстонская.**

**У галіне вышэйшай адукацыі ў рэспубліцы рабіліся такія захады, якія сёння могуць здацца неверагоднымі. Так, у 1926 г. па ўсіх прадметах, якія чыталіся па-беларуску, залікі павінны былі прымацца таксама на гэтай мове. Выпускнікі універсітэта, якія не паказалі дастатковыя веды па беларускай мове, пакідаліся на год дзеля спецыяльнага вывучэння яе. Варта адзначыць, што калі ў 1924/25 навучальным годзе тут чыталася на беларускай мове 13 дысцыплін, дык у 1925/26 ужо — 57. Паступова праводзілася беларусізацыя і на медыцынскім факультэце.**

**Адпаведна з пастановай калегіі Наркамасветы рэспублікі ўся работа па пераводзе на беларускую мову дзяржаўнага універсітэта павінна была быць скончана да пачатку 1928/29 навучальнага года.**

Беларусізацыя ахоплівала ўсе сферы дзейнасці грамадства. Убаку не заставаліся нават такія цэнтралізаваныя пабудовы грамадства, як Узброеныя Сілы. Як паведамляла газета «Звязда» за 1927 г. «ужо некалькі год фарміруюцца беларускія нацыянальныя вайсковыя часці, дзе бытавая і выхаваўчая праца вядзецца на беларускай мове... Падрыхтоўка камандзіраў робіцца Аб'яднанай Беларускай вайсковай школай імя ЦВК БССР, якая знаходзіцца ў Мінску» («Звязда», 1927 г., № 105).

Гэта работа ішла паспяхова. У загадзе № 1 ад 25 снежня 1928 г. па Беларускай ваеннай акрузе, падпісаным камандуючым войскамі БВА А. Ягоравым і членам РВС БВА С. Кажэўнікавым, гаварылася: «Мы маем нацыянальныя беларускія часці, дзе вучоба вядзецца на роднай мове і беларускі склад іншых часцей таксама ўсё шырэй абслугоўваецца ў галіне культурнай і палітычнай працы на роднай мове. У дзесятую гадавіну БССР РВС акругі пачынае выданне спецыяльнай вайсковай газеты на беларускай мове». «Чырвонаармейская праўда» — орган Управы Беларускай Вайсковай акругі — пачала выходзіць 30 студзеня 1928 г. два разы на тыдзень.

Працэс беларусізацыі не разгіваўся стыхійна. Гэта была работа, накіраваная на выпраўленне гістарычнай несправядлівасці, якая была зразумета лепшымі прадстаўнікамі народа, найбольш актыўнай часткай грамадства. Пастановы КП(б)Б, звязаныя з гэтым працэсам, настойліва праводзілі ў жыццё стратэгічную лінію. У пастановах 1926 г. падкрэслівалася, што пры падборы партыйных работнікаў у падмурак трэба класці ў першую чаргу вытрыманасць, дзелавыя якасці і веданне беларускай мовы. Што датычыць служачых савецкіх і іншых апаратаў, тут па лініі правядзення нацыянальнай палітыкі галоўным патрабаваннем да іх таксама было веданне беларускай мовы.

Курс на беларусізацыю быў падкрэслены на X з'ездзе КП(б)Б. У палітычным дакладзе было ўдзелена шмат увагі пытанням міжнацыянальных зносін. Галоўнымі кірункамі гэтай работы, як адзначалася, з'яўляецца беларусізацыя, работа з нацыянальнымі меншасцямі, карэнізацыя апарату, далучэнне ўсёй партыі, КСМ і рабочых да справы нацыянальнай палітыкі. Падкрэслівалася, што ЦК КП(б)Б праводзіць беларусізацыю як цвёрдую лінію ў адносінах да служачых дзяржаўнага і кааператыўнага апаратаў, апаратаў партыі, камсамола, у адносінах да актыву партыі. Толькі пры такой цвёрдай лініі можна стварыць нармальныя ўмовы для развіцця беларускай культуры пры забеспячэнні кіраўніцтва партыі.

Былі падкрэслены магчымыя памылкі і іхнія вынікі. Першы бачыўся ў тым, што будзе наступаць расійскі нацыяналізм, змагаючыся супраць актыўнай беларусізацыі. Другі — небяспека таго, што пачне ўздымаць галаву беларускі мясцовы шавінізм, ажывуць нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі ў некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі.

У заключнай прамове першы сакратар ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкі на X з'ездзе КП(б)Б, цытуючы І. Сталіна, адзначыў: «Гаварыць аб стварэнні адзінай агульначалавечай мовы з адміраннем усіх астатніх моў у перыяд сацыялізму. Я мала веру ў гэтую тэорыю адзінай, усёахопліваючай мовы. Вопыт ва ўсялякім выпадку гаворыць не за, а супраць гэтай тэорыі.

Дагэтуль справа ішла так, што сацыялістычная рэвалюцыя не памяншала, а павялічвала колькасць моў, таму што яна ператрусвала глыбейшыя нізы чалавецтва і выштурхоўвала іх на палітычную сцэну, падахвочваючы да новага жыцця шэраг новых нацыянальнасцей, раней невядомых ці мала вядомых... Трэба ўявіць сабе ўвесь працэс паступовай беларусізацыі нашае партыі. Трэба адказаць на пытанне: ці можа партыя кіраваць пытаннямі культурнага будаўніцтва і стаць галоўным кіраўніком у гэтым, калі яна не авалодае беларускай мовай? Адказ — безумоўна не можа... І вось тут пачынаецца памылка, тут некаторыя таварышы пачынаюць прыкладна так ставіць пытанне: «Добра, ну няхай будзе пераход на беларускую мову, **толькі не сёння**, а заўтра». Не пашкодзіць нагадаць анекдот аб дзвярах нейкай установы, дзе для наведвальнікаў вісела аб'ява: «Сёння за грошы, а заўтра ў пазыку...» Тут, таварышы, прыкладна тое ж атрымліваецца, што паступовы пераход да беларусізацыі адносіцца на заўтра, на наступны месяц і г. д., і г. д. Але калі-небудзь **трэба пачаць** пераломваць цяжкасці засвойвання і разумення беларускай мовы». («Звязда», 1927 № 11).

**Пытанні нацыянальнай палітыкі разглядаліся і ў цэнтры. Адпаведна з пастановай III сесіі ЦВК СССР (25.02.1927 г.) па дакладзе Ўрада рэспублікі былі ўхвалены мерапрыемствы і падкрэслена неабходнасць далейшага развіцця беларусізацыі савецкага апарату з забеспячэннем культурна-нацыянальных патрэбнасцяў усіх нацменшасцяў БССР. Пастанова падпісана Старшынёй ЦВК СССР А. Чарвяковым і Сакратаром ЦВК СССР — А. Енукідзе. Але варожа настроены да беларусізацыі апарат працягваў аказваць тармажэнне, не прымаў тых захадаў, якія рабіліся ўрадавымі органамі. Напярэдадні VIII Усебеларускага з'езда Саветаў у «Звяздзе» быў надрукаваны перадавы артыкул аб беларусізацыі. Думаецца, што яе аўтарам быў А. Р. Чарвякоў (мяркуем па тым, што раней тая ж «Звязда» змясціла інтэрв'ю з ім, дзе выказаны падобныя думкі і тымі ж словамі). У перадавіцы побач са станоўчымі фактамі было адзначана: «У нашых апаратах яшчэ шмат ёсць такіх людзей, якія не дбаюць аб тым, каб удасканаліць, пашырыць і паглыбіць свае веды ў беларускай мове, а толькі робяць выгляд, нібы яны ведаюць мову, накшталт таго, як шмат якія працаўнікі замест таго, каб займацца сапраўднай справай, робяць нешта для блізіру. Ёсць і такія, што адмаўляюцца ад вывучэння беларускай мовы і ніяк не хочуць зразумець той думкі, што апарат існуе не для супрацоўнікаў, а для насельніцтва».**

VIII Усебеларускі з'езд Саветаў, які адбыўся ў красавіку 1927 г., зацвердзіў новую Канстытуцыю рэспублікі, у якой 22 артыкулам зацвярджалася беларуская мова «для зносін паміж дзяржаўнымі, прафесійнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі».

У заключнай прамове на з'ездзе А. Р. Чарвякоў адзначыў, што на VIII з'ездзе адбылося канстытуцыйнае афармленне Савецкай Беларусі як дзяржавы.

**Анатоль ЦІТОЎ,**
**выкладчык Мінскага інстытута культуры.**

*На хвалях эфіру*

# Масток да слухачоў

**Папулярная передача Беларускага радыё «Моладзі пра музычнае мастацтва» нядаўна адзначыла 10-годдзе з дня першага выхаду ў эфір. Рэдактар гэтай перадачы І. Мільто адказвае на пытанні нашага няштатнага карэспандэнта.**

**— Ірына! Пачынаючы дзесяць гадоў назад перадачу для моладзі і спрабуючы ў яе рамках неяк аб'яднаць інтарэсы аматараў акадэмічнай і папулярнай музыкі, ці ўсведамляла ты, што рызыкуеш?**

— «Моладзі пра музычнае мастацтва» задумвалася спачатку як перадача на аснове музыкі акадэмічнай. Але мы з рэдактарам Людмілай Мітаковіч разумелі, што пераважная большасць моладзі сарыентавана на музыку папулярную, таму давялося ісці на пэўны кампраміс. Спачатку ўключэнне ў перадачу папулярнай музыкі выглядала даволі выпадкова, штучна, але я пайшла на гэта свядома, улічваючы псіхалогію ўспрымання. Марыла паступова прыйсці да таго, каб рабіць перадачу пра так званую сур'ёзную музыку, не забываючыся ў той жа час і пра лепшыя ўзоры рока. Пры гэтым хацелася больш пільную ўвагу надаваць знаёмству слухачоў з беларускай музыкай. Карацей кажучы, рабіць усё, каб моладзь атрымала па магчымасці поўную карціну развіцця музычнага мастацтва сучаснасці і мінулага.

Але калі я ўшчыльную сутыкнулася з праблемамі, якімі жыве моладзь, з не дужа (мякка кажучы!) прыхільным афіцыйным стаўленнем да рок-музыкі, з нейкай нават азлобленасцю моладзі ад ці не поўнай забароны таго, што яе цікавіла, — я зразумела, што проста абмінуць гэтыя праблемы нельга. Таму ў перадачы паступова аб'ёмы музыкі акадэмічнай і папулярнай ураўнаважыліся. І адразу аўтарам перадачы давялося вырашаць мноства пытанняў, якія датычыліся папулярнай музыкі, весці гаворку пра тэксты песень, манеру выканання. Калі ж пайшла пошта, калі ўсталявалася зваротная сувязь са слухачамі, праблем, надзіва, паўстала яшчэ больш. Яны далі новы матэрыял для гутарак з радыёаўдыторыяй. Мы павялі гаворку пра трывожна малую цікавасць моладзі да народнай музыкі, нацыянальнага музычнага мастацтва...

**— Пэўна, у залежнасці ад пошты, рэдакцыі давялося рабіць у планах перадачы значныя карэктывы?**

— Безумоўна. Акрамя пошты, мы мелі са слухачамі і непасрэдную сувязь, наладжвалі канферэнцыі, сустрэчы з аўтарамі перадачы. Калі ж усталявалася кола слухачоў, якія пісалі нам рэгулярна, мы пачалі запрашаць іх да ўдзелу ў перадачах. Сустракаючыся з імі, я і сама, дарэчы, адкрыла для сябе шмат цікавага. Вядома, далёка не ўсе праблемы мы здолелі вырашыць за гэтыя гады.

**— Дарэчы, Ірына, ці змяніліся настроі аўдыторыі перадачы, а калі так, дык у які бок?**

— Мне здаецца, што аўдыторыя змянілася вельмі істотна, і ў лепшы бок. Слухачы зрабіліся больш спакойныя ў выказваннях, менш агрэсіўныя.

**— Магчыма, за кошт таго, што з цягам часу перадача набыла пэўны аўтарытэт дзякуючы дакладнай пазіцыі?**

— *Магчыма.* Памятаю першыя лісты ад «металістаў» — страшная была пошта! Да пагроз фізічнай расправы даходзіла! Цяпер тыя ж «металісты» пішуць зусім па-іншаму, хоць і спрачаюцца, але сцяна адчужанасці знікла. Хацелася б думаць, што гэтаму дапамагла перадача, яе рубрыкі «Урокі музычнага этыкету», «Дыялог са слухачом», нарэшце, цвёрдая пазіцыя *нашых аўтараў.* З іншага боку, на змену характару пошты падзейнічала і тое, што рок перастаў быць чымсьці *забароненым.* Гэта адразу зняло агрэсіўнасць пэўнай часткі моладзі. Мабыць, калі б зрабілі рок «легальным» раней, *многія пытанні* музычнага выхавання моладзі вырашаліся б значна лягчэй. Трэба даць магчымасць моладзі пачуць любую музыку, якая гучыць у свеце, толькі—з абавязковым уласным каментарыем. Лічу: нельга баяцца прапанаваць нават найбольш смелыя эксперыменты, галоўнае не падаўляць слухачоў, а заклікаць да роздуму.

**— Змяняючы «па ходу» скіраванасць перадачы, ты, безумоўна, вымушана была шукаць аўтараў, здольных павесці дыялог пра музыку папулярную. Ведаю, што на працягу многіх гадоў адным з найбольш актыўных аўтараў перадачы з'яўляецца Юрый Рашэтнікаў. Хто яшчэ працуе для тваёй — дазволь яе ўсё ж называць гэтак — перадачы?**

— З Юрыем мы аднадумцы, пэўныя разыходжанні ў нас былі мо толькі на самым пачатку, калі яшчэ не вельмі добра разумелі, якой павінна быць перадача. Але нашы музычныя густы супалі амаль адразу. Юрый жа не проста выдаваў патрэбную інфармацыю, але абавязкова даваў ёй ацэнку. Кола аўтараў паступова пашыралася, у перадачу прыйшлі Эдуард Дуброўскі, Уладзіслаў Касперчык, якім я давяраю цалкам і вельмі ўдзячная. Цікава, што ўсе яны—людзі з тэхнічнай адукацыяй, але асобы надзвычай творчыя, куды больш творчыя, чым многія музыказнаўцы.

**— І многія, згадзіся, рэдактары...**

— Так... У перадачы вельмі важна не толькі выдаць інфармацыю, але і эмацыянальна зарадзіць слухачоў, знайсці цікавую форму падачы матэрыялаў. Усё гэта яны робяць.

Дарэчы, куды больш праблем узнікла там, дзе я гэтага зусім не чакала: з аўтарамі па пытаннях музыкі акадэмічнай. І па гэты час мне не ўдалося згуртаваць такое мабільнае і творчае кола аўтараў, якія рабілі б сюжэты пра сур'ёзную музыку. Тут становішча проста катастрафічнае. Наша кансерваторыя не вучыць студэнтаў так, каб сарыентаваць іх на далейшае жыццё, практычную дзейнасць, не вучыць жыць патрэбамі музычнага асветніцтва. Ураженне такое, быццам большасць выпускнікоў пакідае кансерваторыю, не ведаючы, дзеля чаго яны вучыліся. Быццам бы галоўная мэта навучання — гэта ўмець напісаць дыктант па сальфеджыо, вырашыць задачу па гармоніі ці зрабіць «структурны аналіз» музычнага твора. Так, дарэчы, вучылі і мяне, так, заўважаю, вучаць і цяпер. Я неяк звярнулася да студэнтаў другога курса, будучых *музыказнаўцаў,* з прапановай супрацоўніцтва, бо думала, што яны яшчэ не «акадэмізаваліся», што ў іх жыве *патрэба выказацца.* Здавалася, яны ўважліва паслухалі мяне, мае тлумачэнні... Год прайшоў. І ніхто ў рэдакцыю не з'явіўся. *У мяне ўзнікла адчуванне,* што і маладыя, і нават вопытныя музыказнаўцы проста... не любяць музыку Я не разумею: *як можна быць спецыялістам і* не мець жадання паўплываць на агульны культурны ўзровень, эстэтычнае выхаванне моладзі, якія пакуль на даволі нізкім узроўні? Не разумею!

**— Калі паспрабаваць у некальніх словах сфармуляваць галоўны прынцып перадачы «Моладзі пра музычнае мастацтва», як ён будзе гучаць?**

— Найбольш істотнае тое, што наша перадача не інфармацыйная. *Яна адукацыйная.* Цяпер эфір напоўнены музычна-інфармацыйнымі праграмамі, якія, думаецца, далёка не заўсёды выконваюць сваё *прызначэнне.* Мне здаецца, толькі інфармаваць сёння—недастаткова! Так што мы і далей *свядома будзем* арыентавацца на асветніцкую дзейнасць. На радыё, на тэлебачанні музыка, на жаль, часцей выкарыстоўваецца як сродак пэўнага «ажыўляжу», у той час як эстэтычнае выхаванне амаль у заняпадзе. Інфармацыя быць павінна, але і навучанне, фарміраванне эстэтычных густаў — таксама! Мяне вельмі хвалюе нейкая эмацыянальная глухата нашай моладзі...

**— Але, згадзіцеся, эмоцыі моладзі праяўляюцца часцей за ўсё знешне. І сапраўды, у многіх перадачах адчуваецца імкненне задаволіць адно толькі знешнюю, павярхоўную цікавасць да музыкі, а не ўнутраныя эмацыянальныя патрэбы.**

— Згодная з табой. Людзі або не хочуць, або не здатныя задумацца над тым, што яны слухаюць. Таму адна з нашых задач—паспрабаваць абудзіць у іх цікавасць слухаць уважліва, патрэбу аналізаваць пачутае.

**— А ці можа перадача пахваліцца тым, што яна адкрыла слухачам новае імя?**

— У свой час мы рабілі выпускі, прысвечаныя выхаванцам Беларускай кансерваторыі: кампазітарам Васілю Раінчыку, Уладзіміру Кандрусевічу, Уладзіміру Солтану, піяністцы Ірыне Шумілінай, спявачцы Наталлі Рудневай. Усё гэта, думаю, імёны ўжо вядомыя. Так што, лічу, адкрыцці ў нашай перадачы былі.

**— Чаго ж можна чакаць ад перадачы «Моладзі пра музычнае мастацтва» ў бліжэйшыя дзесяць гадоў?**

— Я, прабач, не загадваю на такі тэрмін. На год—калі ласка! Нашы планы якраз і скіраваныя ў адукацыйнае рэчышча. Мы будзем прадаўжаць цыклы «Падарожжа ў музычнае мінулае Беларусі», «Знаёмства з беларускай народнай песняй», «З гісторыі рок-музыкі». Прыгадаўшы 50 — 60-ыя гады, цяпер пераходзім да 70-ых. Інфармацыі пра гэтую музыку шмат, але нам хочацца паразважаць, паспрачацца, высветліць тэндэнцыі, што, дарэчы, цікава і нам самім. Чацвёрты цыкл — «Музычны лікбез», які мы пачалі даўно. У гэтым цыкле будзем тлумачыць асновы музычнага мастацтва, элементы тэорыі музыкі, дапамагаць слухачам разумець тое, што яны слухаюць. У планах і адкрыццё цыкла пад умоўнай назвай «Час ісці ў музычны тэатр». Ёсць надзённая патрэба знаёміць слухачоў з нашымі лепшымі опернымі і балетнымі артыстамі. Нам ёсць што паказаць, мы маем у нашым тэатры сапраўдных зорак, нават сусветнай велічыні. І, вядома, пастаянна будзем сачыць за творчасцю маладых беларускіх кампазітараў і выканаўцаў — у самых розных музычных жанрах.

**— Дзякуй, Ірына, за гутарку. Пажадаю перадачы «Моладзі пра музычнае мастацтва» доўгай маладосці і гэткага ж стабільнага выхаду ў эфір.**

Гутарыў **Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

# Опернае жыццё караля Стаха

6, 13 і 15 красавіка ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР прайшлі першыя прэм'ерныя спектаклі оперы «Дзікае паляванне караля Стаха». А 16 красавіка з нагоды гэтай падзеі ў тэатры быў арганізаваны «круглы стол», на якім прысутнічалі музыказнаўцы, крытыкі, кампазітары, журналісты, а таксама члены пастановачнай групы спектакля, яго аўтары, салісты, артысты хору і мімансу.

Вядучая «круглага стала», доктар мастацтвазнаўства Г. Куляшова па традыцыі прадставіла першае слова гасцям тэатра — музыказнаўцам М. Галушцы з Ленінграда і В. Ліндэнберг з Рыгі. М. Галушка, як і многія ў той вечар, адзначыла, што спектакль «Дзікае паляванне караля Стаха» — вялікая падзея ў культурным жыцці Беларусі. Яна выказала меркаванне, што опера будзе карыстацца папулярнасцю не толькі ў беларускай рэспубліцы, а і за яе межамі; не выключана таксама, што тэатры іншых рэспублік зацікавяцца гэтым самабытным творам. Госця з Ленінграда спынілася таксама на рабоце аркестра, салістаў і хору. Узровень выканання апошняга, на яе думку, не ніжэйшы за ўзровень хору Вялікага тэатра СССР: настолькі свабодна ён рухаецца і чыста інтаніруе пасля танцаў...

Госці з Ленінграда і Рыгі выказалі і некаторыя крытычныя заўвагі. В. Ліндэнберг, напрыклад, гаварыла пра няўдалы, на яе думку, фінал оперы: ён выглядаў вельмі непераканаўчым.

Малады музыказнаўца Э. Алейнікава адзначыла, што ў спектаклі ярка выявіўся новы падыход да оперы, дзе, як правіла, заўсёды выразна размяжоўваецца чорнае і белае—станоўчае і адмоўнае. У «Дзікім паляванні...» глядач убачыў іншае: тут няма сацыялагічных штампаў.

Мастак М. Купава перадусім выказаў удзячнасць стваральнікам спектакля: нарэшце оперная сцэна звярнулася да твора, які па праву ўнесены ў «залаты фонд» беларускай нацыянальнай культуры. Прамоўца ў цэлым высока ацаніў работу Э. Гейдэбрэхта, мастака спектакля, аднак адзначыў, што быў здзіўлены празмернай умоўнасцю, недакладнасцю некаторых выяўленчых дэталяў, у прыватнасці, гербаў, якія паслужылі элементам афармлення замкаў: гербы гэтыя існуюць здавён, дык ці ёсць сэнс іх выдумляць, нават *дзеля сцэны?*

Э. Гейдэбрэхт, у сваю чаргу, расказаў, як ён працаваў над *афармленнем спектакля,* як яшчэ з Я. Вашчаком, які не дажыў, на жаль, да прэм'еры, ездзіў у Нясвіж, спрабуючы адшукаць нешта, што дапамагло б знайсці выяўленчае вырашэнне спектакля.

На «тэхнічным» баку справы спыніліся выканаўца ролі Дубатоўка У. Экнадзіёсаў і артыст хору П. Тарасевіч. Саліст адзначыў, што ў час работы над спектаклем выявілася сапраўдная сатворчасць стваральнікаў: акцёры не адчувалі дыктату рэжысёра, а ігра была арганічным працягам іх уласнага бачання твора. П. Тарасевіч расказаў пра некаторыя цяжкасці, з якімі сутыкнуліся артысты хору. Напачатку былі сумненні ў тым, што задуманае атрымаецца, але дзякуючы зацікаўленасці і самаадданасці членаў пастановачнай групы і аўтараў гэтыя сумненні, няўпэўненасць у поспеху паступова зніклі...

Рэжысёр В. Цюпа расказаў аб тым, як ён убачыў і ўспрыняў аповесць Караткевіча, якую задуму, ідэю хацеў правесці праз сцэнічнае яе ўвасабленне. Рэжысёр убачыў у творы тэму, якая хвалюе цяпер многіх: адказнасць кожнага з нас за знішчэнне прыроды, культуры, душы чалавечай, за тое, што дапускаем гэтае знішчэнне.

У «круглым стале» ўзялі ўдзел таксама доктар мастацтвазнаўства А. Ладыгіна, кампазітар П. Альхімовіч, музыказнаўцы І. Глушакоў і А. Саламаха і іншыя. У іх выступленнях прасочвалася думка, што, мяркуючы па трох першых прэм'ерных спектаклях, і артысты, і пастаноўшчыкі працягваюць творчы пошук, з кожным разам дасягаючы ўсё больш дасканалага выканання. Выступаючыя пажадалі новай оперы доўгага і паспяховага жыцця на сцэне і выказалі спадзяванні, што такія карысныя, плённыя сустрэчы «за круглым сталом» стануць для творцаў і крытыкаў опернага мастацтва традыцыйнымі.

**НАШ КАР.**

Сцэна са спектакля «Дзікае паляванне караля Стаха».

Фота Ул. КРУКА.

спыніць тыя гушкалкі «весела —нявесела» ды пайсці да вяскоўцаў, папытацца, як жывуць? што болей рупіць? што цешыць?.. Чаму чалавек быў людзям лепшы, калі ў благім доме жыў, а ў новы перабраўся — адна зайздрасць? Даўно трэба было зламаць высокія платы адчужанасці, каб за імі не заходзілася душа: «Во неяк жа сусед сумеў «Жыгулі» купіць, а ў мяне толькі «Запарожац». А палучка, здаецца, аднолькавая, трэба і мне грошы сціскаць, спарней жыць...» І будзе потым рабіць дзеля грошай, пакуль незаможыцца, з нянавісцю пазіраючы на таго суседа з «Жыгулямі», быццам гэта ён, злоснік, піхнуў яго ў каршэнь, прымусіў жыць наўперадкі. «Я ж нічога за ўсю жызню сабе ў магазіне не купіў, усё ва ўцанёным! Во гэты касцюм у магазіне варты дваццаць шэсць рублёў, а ва ўцанёным — трынаццаць і шэсцьдзесят пяць капеек. Дык жа я ў ім і на вяселле, і на работу няшкода, бо дзяшовы»,— казаў мой шчыры, як дзіця, Мікалайка, збіраючы дачцэ грошы, яна жыве з сям'ёй у горадзе. — Як хачу, каб машыну купіла! У горадзе, што ў каго ёсць, — не відаць, а ў нас жа — дзве хаты, сяліба, прыехалі б да мяне, машыну б на дварышчы паставілі б. Во!»

Набыўшы машыну, чалавеку быццам ужо нічога і не жадаецца, пачынае тупець вастрыё, як казаў Красоўскі, чалавеку сумна робіцца — няма мэты. Як спіхнуць яго з гэтага «вяршка», каб закратаўся, павесялеў, смак адчуў не толькі ў ежы, бо яна яму ўжо таксама не пахне — кожны дзень смачна есць, не посціцца нават перад калядамі. Адмяніліся ўмовы жыцця, а культработнікі ўсё адно і тое: мастацкая самадзейнасць і мастацкая самадзейнасць. Хіба ў культуры на вёсцы адны турботы, як даць канцэрт? Ніхто не лапнуў за руку шчырага Мікалайку, які за ўсё сваё жыццё не знасіў добрай адзежыны дзеля машыны, ніхто не паказаў яму, як, на што, куды трэба расходаваць яго дарагі рубель, каб потым спявала душа. Вось аб чым трэба было гаварыць у клубе, каб аб'яднаць людзей, даўшы ім інакшы кірунак, інакшую мэту. Не раз чула, як іншы чалавек, хрысцячыся, казаў у адчаі: «На цяперашніх людзей вайна трэба». Як жа яму цяжка, як невыносна вясковая адчужанасць суседзяў, калі на гэтай спапялёнай зямлі праз якія сорак тры гады спакою ён гатоў ужо згубіць усё набытае, усё спаліць агнём, абы вярнуць людскае і сабе і суседу, тое, чым спрадвеку ганарылася вёска. Ніхто не ўзяўся растлумачыць яму, што не толькі вайной можна ачысціць душу, а дзень у дзень трэба над ёй, душой, працаваць, каб яна лепшала, харашэла.

Культработнікі і нават знакамітыя публіцысты часта наракаюць на тое, маўляў, што цяпер вясковы чалавек прывык на гатовае: націснуў кнопку — музыка! Пстрыкнуў у другім месцы — кіно! Астроўскі хацеў быў весці ў мясцовай школе гурток баяністаў, вучні адмовіліся, маўляў, не можна на баяне іграць. А на чым бы хацелася, запытаўся? На транзістары, адказалі, рагочучы, але сказалі-такі праўду. Мой пляменнік, малады чалавек, прыехаўшы ў госці, уключаў тэлевізар у 6.30 раніцы і зноў залазіў пад коўдру: я, казаў, заўсёды дома так, пакуль уставаць на работу. А гэта ж самы ціхі спавядальны час на зямлі, калі пяюць адны птушкі, калі сам чалавек найлепшы бывае. Як шкодна для душы ўпускаць такую чыстую самасузіральную пару!

Абы на гатовае... Але ж сама методыка культработнікаў спрыяла гэтаму, з першага дня яна была скіравана на тое, каб падзяліць пеўчы народ на мастацкую самадзейнасць і гледачоў. «Але спяваць і танцаваць па графіку, ды яшчэ на сцэне, хочацца далёка не кожнаму. Усенароднае гулянне знікла. Бюракрат і тут руку прылажыў», — справядліва лічыць пісьменнік Васіль Бялоў. Так, сапраўды, на сцэне лягчэй пералічыць удзельнікаў весялосці, а потым даць у раён справаздачу. І вось вынікі. Цяпер калі хто і запяе ў Валосавічах на вуліцы, то назаўтра ўжо ўсе гавораць: ён, пэўна, быў п'яны. Песня ў вёсцы ўжо ўспрымаецца толькі са сцэны. І нават самнасам у хаце іншая жанчына, калі і захочацца, пабаіцца падаць голас: каб хаця на бяду не выйшла. Дзіву даешся, як гэта магла перакінуцца на чалавека даўнейшая варажба: маўляў, як курыца запяе, то ўжо чакай бяды на хату. Рэдка калі спявала курыца, невыносна было слухаць, гаспадар нёс яе галаву на калодку... За рэдкім часам песня наўме і ў жанчыны. Не пяюць у сям'і, не стала каму вучыць песням дзяцей, і яны ўжо толькі на гатовае — на транзістары іграць.

«Вышыўкі ў нас не ў модзе», —казала мне Аліна Віктараўна. І тут, бачу, упусцілі сваё культработнікі. Хай сабе, няма калі жанчыне прасці, ткаць, ды і навошта, калі ў краме можна ўсё набыць, так гавораць зараз па вёсках. Але ж трэба было б вылучыць самых здольных да гэтага занятку маладзіц, каб іх работа была не на патрэбу, а дзеля прыгажосці, дзеля душы, як і тая ж песня. «Што ў вас, можа, ёсць?»—пытаюцца, хадзячы па хатах, як валачобнікі, культработнікі, калі, праўду кажучы, падапрэ арганізаваць выставу. І дастаюць бабулі з глыбокіх куфраў свае вышыванкі, успаміны маладосці. Сабяруць да свята старых жанчын, пакупляюць ім капы, ручнікі ў падарунак за даўнейшыя песні. І зноў зачыняецца куфар да наступнага раза, скрыпіць вечкам. Пытаюся ў Вячаслава Міхайлавіча (а калісьці ў хоры ён быў галоўны спявак, гэта пра яго казалі: калі Красоўскі не паспявае, то і есці не хоча), ці ёсць яшчэ ў яго голас?

— Нават не ведаю, даўно не пеў... Праўда, як адыходзіў на пенсію, канторскім жанчынам заспяваў на развітанне.

Красоўскі надзіва прыемны чалавек, высокі, прыгожы, твар рухавы, жывы, гады не сціснулі. Сын, як тады гаварылася, «ворага народа», гадавала маці адна васьмёра дзяцей, ён апошні, самы маленькі, галоднымі вачыма зайздросціў тым дзецям, хто рос у дзіцячым доме, — сябры адтуль прыносілі яму ў кішэні кавалак хлеба.

— Гора такое, як успомню: адзін брат загінуў у партызанах, другі забіты ў камісарах, сястра цяжка хварэе, а выйдзеш у поле — заліваешся, спяваючы.

Мае сёстры з Пастаўшчыны расказвалі пра тое ж самае: пра песню, якая нараджаецца ў працы. «Зжалі мы жыта, так збіліся, так скачаліся, у роце ўсё запяклося, а прыйшлі ў дварышча да брыгадзіра Ігнася, каб наказаць, што зрабілі ўжо,—ды я-як запяём! Ігнась пачуў, выйшаў і... заплакаў. Жарт, так задарма, кажа, робяць і пяюць...» А ўвечары, управіўшыся, прыйдуць яны на вечарыны. «Дайце мужчынам з бабамі пагуляць!» — папросіць нехта ў маладых, зробіць заказ музыканту Колю кавалёваму. І той будзе давідна іграць, каму чаго зажадаецца, толькі каб Ксеня Алёшкіна, дзеўка ягоная, каля яго сядзела, каб яе, божа барані, ніхто не зачапіў, да танцаў не браў. «Летам спяваць няма калі — работы шмат», — сказала б на тое Надзя Бадзяй. Так, яна лічыць, што даяркам няма калі весяліцца круглы год. Але ж праца на зямлі спрадвеку адухаўляла чалавека, пакуль не пачалося, па-руску кажучы, «раскрестьянивание», пакуль не з'явілася форма падзёншчыны — абы адбыць. Сяўба, Касьба, Жніво, Малацьба — называю колішнія святы, не царкоўныя, але калі душа ўздымалася таксама высока, як і ў малітве, — «выйдзеш у поле — заліваешся...»

— Нешта мы цяпер усё некуды спяшаемся, усюды назавязку.. Вясной каня няма — нервуецца чалавек, кіпяціцца, што ўсё не ў пару робіцца... А то, бывае, косіш, рупішся, а сусед даўно скасіў і глядзіць, што надрываешся, а не паможа.. Тут ужо не да песень... Наш саўгас, можна сказаць, улежачкі жыў, толькі зараз пры новым дырэктары стаў падымацца.., — наперабой успаміналася, гаварылася — памагалі мне валосавіцкія людзі шукаць прычыну невясёлага жыцця.

Шукалі зацікаўлена, шчыра, кожнаму надакучыла гэтая безгалосіца. З хаты — у хату, з канца ў канец, але куды б мы з Надзяй ні заходзілі, абы тэлефон быў, званіў і званіў услед старшыня Валосавіцкага сельвыканкома Аляксандр Ягоравіч Кляшторны, патрабавальна напамінаў мастацкаму кіраўніку, што трэба хутчэй, завідна, раздаць па вёсках талоны на гарэлку. Жыццё, якое яно ёсць, без падмалёўкі, даганяла, ішло побач, быццам і перакрэслівала спадзяванні на нешта іншае, ашаламляла сваёй жорсткай праўдай, якой тут ніхто не цураўся. І ўжо з Наташай Казырай, маладой загадчыцай клуба, мы дзівімся на карціны Генадзя Ігнатавіча Астроўскага, ніхто ёй не падказаў, што ён добры мастак. Такі нацюрморт, як у яго на кухні, мог бы аздобіць, узвесяліць рабочую сталовую, і цяплейшымі б выдавалі пустыя сцены, калі б свяціліся на іх знаёмыя фарбы, любоўна сабраныя таленавітым чалавекам на гэтай зямлі. Стаяў на лаўцы ў Генадзя Ігнатавіча закрыты ад пылу баян. А сам ён падбіраў словы, шукаў іх каля сябе, у наваколлі, клаў адзін каля аднаго, і цэлы дзень цешыўся з радка, які здаваўся ў вершы надта ўдалым. Зараз Астроўскі — інвалід працы, нідзе не робіць. Чаму, можна сказаць, ветэрану вясковай культуры не дазволіць кіраўніцтва хорам, чаму не даць весці які-небудзь гурток, не папрасіць разумнага, таленавітага чалавека, каб дапамог «стрэсці гэты пылок»? Хай выбачаюць мне некаторыя мае субяседнікі, але тое, як гатоўна, без спагады і шкадавання яны дакладалі, што ён іншы раз залішне выпівае, — гучала як апраўданне для тых, хто мае работу, хоць і намнога меней здольны да яе. Парукай Генадзю Ігнатавічу павага, надзея на самае добрае ў ім, чыстага, багатай душы, рэдкай прыгажосці чалавека — бібліятэкара клуба Веры Бародзіч, яна чытала мне свае вершы, а на адвароце кожнага ліста было намалявана дзіцячай рукой яе дачкі сонечнае кола... Парукай давер Соні, ціхай яснай жанчыны, якая прыйшла дапамагаць жыць і сама спадзяецца на яго дапамогу. Парукай яму даўняя дружба Красоўскага і ці толькі, спадзяюся, аднаго яго. Парукай наша міласэрнасць да чалавечага лёсу. Яму б работу ў рукі...

Можна знайсці яшчэ тыя крыніцы, якія не зацягнуліся раскай, знайсці тых людзей, у якіх не зблоцілася душа, хоць многае, аб чым мы тут разам разважалі з валосавіцкімі людзьмі, таму спрыяла. Не на тэлевізійны агеньчык, вядома, трэба было б зайсці (і не раз) культработнікам да Пятра Сцяпанавіча Аношкі. Ён ужо на пенсіі, але яшчэ водзіць саўгасную пажарную машыну, былы франтавік — звычайны цяжкі лёс земляроба і воіна. Але гэта ён так доўга і не адзін выбірае сабе ў краме новы касцюм: «Сіні? Не. Сіні колер сцюдзёны. Руды? Ага, руды цяплейшы...» Бо сядзець яму заўсёды за сталом на покуці, весела, дасціпна весці бяседу. Рэдкае майстэрства сагрэць госця словам, павагай, знакам. Адзываецца ў яго хаце той далёкі гул мілых вячорак, якія мы зараз імітуем па тэлебачанні.

...Біліся, біліся ў дварышчы Мікалая Саланенкі лясныя звяры, потым, памірыўшыся, паскідалі свае рогі каля парога, як непатрэбную зброю, і пайшлі ў лес. Вісяць тыя рогі на сценах у хаце, на мацнейшых, тугіх — вёдры з вадой, кубкі, адзежа, больш далікатныя — так, дзеля прыгажосці, а самыя харошыя — цешчы падараваў... Прыблізна так пачыналася б легенда аб майстры па дрэве Мікалаю, які шукае ў лесе карчы, карані, сукі, падобныя на звярыныя рогі. У гэтай хаце, пэўна, лёгка і печ цепліць, бо дзвярцы ў яе размаляваныя, тым больш, што і партрэт самой гаспадыні (таксама работа Мікалая) на сцяне. А пад партрэтам — акварэлькі дзяцей, хатняя выстава. На гэтым, можна сказаць, і замкнёны яго талент. Хацеў ён навучыць свайму майстэрству дзяцей у школе, леташняй зімой разы са два правёў заняткі, спатрэбіліся інструменты, але школа іх не набыла. Прыйшлося ўсё кінуць.

— Вядома, няма часу за работай, я ж слесар, але трэба было б заняцца з дзецьмі, дзе ж дзенешся, а то галубоў ганяюць, бадзяюцца абы-дзе... Дзякуй, што зайшлі, — сказаў Мікалай на развітанне.

А на добрае трэба каб не стыкаліся тут у яго культработнікі. Меней было б гаворак раніцай на вёсцы: той развёўся, той сышоўся, той пабіўся — каб запрасілі маладых Саланенкаў і Алу з Сашам Атрашкевічаў (таксама дружная сям'я) на вечар Сям'і, хай бы людзі ўбачылі, пацешыліся з іх. Можа б, радзей выпадала новаму дырэктару саўгаса выгаворваць некаторым сямейнікам, што патрабуюць рамонту ў сваіх кватэрах: «Вы будзеце біцца, а я вам вокны шкліць?!»

І зваляцца пад ногі ўсе нашы беды, як і не было, калі мы з Наташай зойдзем да Людмілы Захараўны Рыжовай і Ніны Фёдараўны Чуес, удзельніц фальклорнага ансамбля. Абы толькі вуркнуў наш аўтобус, выбегла з хаты Людміла Захараўна. Ніна Фёдараўна мыла тым часам бялізну, пену, як снег, лёгенька скінула і ўжо гатова хоць да бяседы, хоць да песні, ідзе — пара з рук яшчэ сырых, гарачых. А вакол жанчын лунала прыгожая легенда аб Крукавай гары, што непадалёк ад Валосавіч... Памёр ксёндз Крукаў і касцёл забраў, толькі званы ноччу гулі. І на Вялікдзень, калі поўначчу пайсці і вуха да гары прылажыць, чуваць тыя званы — служба ідзе. Старыя людзі кажуць: як іх пачуеш, то і лёгка стане — чысты чалавек робіцца... Можа, не праўдзіць легенда, але які цуд ратаваў іх душу ўсе гэтыя гады, калі яны, кожная па пяцёра, гадавалі сваіх дзяцей — і спявалі, галадавалі — і спявалі, працавалі за пусты працадзень — і спявалі, пастарэлі, сцежка вузкая да хаты, на аднаго чалавека — а спяваюць.

А ў нас сягоння Масленіца.
Прыляцела з куста ластавіца...

Ужо наўме веснавое. Даўней, расказваюць жанчыны, на Масленіцу калыхаліся ў пуні, у начоўках калыхаліся, вяроўку на вароты перакінуць і калышуцца, а дзеці — у хаце, пад бэлькай. На другі дзень калодкі адзін да аднаго з двара ў двор качалі. Якая прыкмета, пытаюся, на што яно варажыла? Можа, каб дрэва разбудзіць, раскалыхаць пасля зімы? Не, не памятаюць жанчыны. Трэба ў каго старэйшага пытацца. Мы з Наташай у гаворцы згубілі слова «попрадкі», перапытвалі, што яно абазначае, Мы ўжо недачувалі ў ім ціхі з кастрой, аднастайны голас верацён. Знікаюць з нашага ўжытку рэчы, работы, заняткі, святы — губляюцца словы, бяднее наша мова. Перацінаецца спрадвечнае цячэнне культуры, як у гэтай яшчэ адной з незлічоных мясцовай легендзе, у якой расказваецца, што тут, каля вёскі па лагу рака ішла, а нехта кінуў у яе патэльню зачараваную і вада прапала — высмагла на патэльні, спражылася да кропелькі... Сама Наташа з Лепеля, можна сказаць, гарадская, не было ў яе ў школе на спевах ніводнага ўрока па фальклоры, дарэчы, ніхто не запрашае жанчын і ў Валосавіцкую школу. Не можа Наташа памагчы спявачкам разбіцца хаця б на два галасы, але прыязджае да іх, як яна сама кажа, каб ім было весялей. Пасядзіць, пагаворыць, забытае слова ўспомніць.

Наташа пакуль без спецыяльнай адукацыі, зусім маладая, але мае добрую інтуіцыю, бо ходзіць па самаму дnішчу, — шукае злое чараванне, каб зноў па лагу рака ішла...

**кіраўніком калектыву абраны гарманіст М. Будо. У рэпертуары нашага калектыву налічваецца каля ста песень...**

**Мы сядзім у суцішанай зале, дзе гучаць беларускія народныя мелодыі, чутыя і нячутыя, паўзабытыя і зусім забытыя. Глядзім на гэтых жанчын з бронзавымі ад загару тварамі, якія ўсё жыццё сілы свае аддавалі роднай зямлі. Самабытны калектыў не толькі спявае, пад гукі народных інструментаў — баяна, бубна і трашчотак ён «раскручвае» на сцэне цэлае тэатралізаванае відовішча, яркае і непаўторнае. Мы, гледачы, быццам удзельнічаем у глыбоцкіх вячорках, вабных, ціхіх і мудрых, як само жыццё.**

**Круціцца калаўрот, і, напэўна, усе ў зале заўважаюць, як няпроста пальцам жанчын, агрубелым ад цяжкай работы, сукаць тоненькую нітачку, якая, як тыя гады, усё бяжыць і бяжыць ад прасніцы...**

**Л. ВЯЧАС.**



Выступае фальклорны калектыў.



Вядучая вячорак Наталля Нікіфаровіч.

Фота Ул. КРУКА.

*Старонкі ўспамінаў*

# СНЕГІРЫ НА РАБІНЕ

Зіма ў той год была надзіва снежная, марозная, сухая. Сумёты ў старым нясвіжскім парку панамятала ў рост чалавека. Перад абедам я гуляў па расчышчаных паркавых дарожках. Дыхалася лёгка, вока цешылі апушаныя інеем застылыя ва ўрачыстай маўклівасці дрэвы, іскрыстая белізна снегу. За паваротам дальняй дарожкі мне адкрылася невялікая круглая, бы сподак, палянка. Я павёў па ёй вачамі і ледзь не ахнуў: густое голле невялікай рабіны абселі чырванагрудыя снегіры. Якія былі яны прыгожыя і вабныя ў зімовай казцы прыроды!

Доўга, як зачараваны, любаваўся я птушкамі. Нарэшце памалу, каб не спужнуць іх, павярнуўся і пайшоў.

У абед у сталоўцы нясвіжскага санаторыя, як заўсёды пад час сталавання, пабачыў Аркадзя Аляксандравіча Куляшова: нашы сталы стаялі побач. На твары яго свяціўся лёгкі румянец, і мне падумалася: Аркадзь Аляксандравіч, можа, таксама толькі-што з прагулкі? Можа, таксама снегірамі любаваўся?

Мне закарцела падзяліцца з суседзямі па сталу ўражаннямі ад прагулкі, але намер мой перапыніла настаўніца з Мінска Вольга Панкратаўна.

— У вас няма ручкі? — звярнулася яна да мяне. — Пакуль есці не прынеслі, давайце справай зоймемся: заказ на паслязаўтра зробім. — І пажартавала: — Жыць жа трэба?..

— Няма, у пінжаку засталася. — Я прыйшоў у сталовую без пінжака. — А вы ў Куляшова папрасіце.

— У якога Куляшова?

— У Аркадзя Аляксандравіча.

Вочы яе раптам зрабіліся вялікія і круглыя:

— У паэта?

— Так, у яго.

— А дзе ён? — Вольга Панкратаўна спытала і нечакана з нейкай кволай няўпэўненасцю ўсміхнулася, быццам гаворачы гэтай усмешкай: «Жартуеш».

— Ну во, больш за тыдзень вы тры разы на дні сустракаецеся тут, а пытаеце, дзе ён. У вас за спіной сядзіць, у тарцы стала ад акна.

— То трэба ж!.. — вырвалася ў яе нейкае дакорлівае здзіўленне. — А што?.. І папрашу.

Але хвіліну яна сядзела незварушна, сціўшана. Маўчаў і я, з цікаўнасцю пазіраючы на яе.

— Дык той ручкай, якою ён піша свае цудоўныя творы, меню запаўняць? — загаварыла яна пасля напружанай паўзы.— Не, што вы!..

Мне імпанавала яе непасрэднасць, і я пажартаваў:

— Не хвалюйцеся, творы пісаць у яго ёсць другая, асаблівая.

Не паспеў я вокам міргнуць, як Вольга Панкратаўна павярнулася да суседняга стала і — да Куляшова:

— Можна ў вас папрасіць ручку меню запоўніць?

За сталом сядзела шэсць чалавек. Па тым, што яна звярнулася не да каго іншага, хто сядзеў бліжэй да яе, а менавіта да яго, Аркадзь Аляксандравіч, відаць, зразумеў: у нас была нейкая гаворка пра яго. Усміхнуўся.

— А ён што, не дае? — кіўнуў галавой, паказваючы на мяне.

— У пінжаку, кажа, засталася.

Аркадзь Аляксандравіч падаў ёй ручку.

— А ў яго заўсёды павінна быць пры ім. — Ён, відаць, намякаў на маё службовае становішча — я тады працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Пакуль запаўняла меню, Вольга Панкратаўна зусім асмялела. Вяртаючы Куляшову самапіску, яна раптам выпаліла:

— От бы яшчэ патрымаць тую! — Ёй проста хацелася пагаварыць з вядомым паэтам, творы якога, відаць, яна любіла.

— Якую тую? — няспешна перапытаў Аркадзь Аляксандравіч, уважліва гледзячы на неспадзяваную субяседніцу.

— Якою вы пішаце свае творы.

— А-а, тую? — Шчырая ўсмешка асвяціла яго твар. — Тая таксама недзе ў маім другім пінжаку засталася.

Я пазіраў на яго з прыхаванай радасцю: як ён проста і непасрэдна падключаецца да жартаў! І раптам... Ці мне падалося, ці сапраўды так было?.. Твар яго працягваў усміхацца, а ў вачах раптам адбілася глыбокая туга.

— Ды і не ведаю, ці знайду я яе. — Словы гэтыя, падобна было, вырваліся паміма яго волі, і ён, каб перавесці іх у жарт, усміхнуўся яшчэ шырэй. Аднак усмешка ўжо, як падалося мне, была выціснута сілком.

Тут афіцыянткі паставілі на сталы талеркі з баршчом, і ўсе дружна заняліся абедам.

Назаўтра Аркадзя Аляксандравіча Куляшова ўжо не было ў жывых.

Назаўтра я таксама пайшоў у парк. Свяціла сонца, іскрыўся снег, а сэрца маё нема галасіла. Думкі ліхаманіла палынна-горкая, няўцешная крыўда: згубілася, назаўсёды страцілася тая *цудоўная ручка...* Яшчэ ж учора быў ён тут. Мусіць, так вось стаяў, зачараваны дзівоснай прыгажосцю гэтых мілых чырванагрудых птахаў на аблюбаванай імі рабіне. І, хто ведае, можа, у мяцежнай душы яго ў тыя мінуты нараджаўся які новы светлы паэтычны вобраз роднага краю...

Трапятліва слухаючы свае ліхаманкавыя пакутлівыя думкі, я міжвольна казаў сабе: так, ён быў тут, бачыў снегіроў, ён не мог іх не бачыць, не мог... Я пераконваў сябе апантана, нібыта пераканане гэтае было для мяне тым адзіным, што хоць як магло ўцешыць у вялікай непапраўнай страце.

**Аляксандр КАПУСЦІН.**



А. КУЛЯШОЎ. 1966 г. Фота Ул КРУКА.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

## Ці лёгка быць энтузіястам?

Я нядаўна вярнуўся з Мінска — з «БелСЭ», куды вазіў свой рукапіс іспанска-беларускага слоўніка на 24000 слоў.

Слоўнікаў у нас, сапраўды, няма. «БелСЭ» робіць першыя крокі (выйшаў, напрыклад, нямецка - беларуска - рускі слоўнік), але крокі гэтыя вельмі кволыя. Мяркуйце самі: украінска - беларускі слоўнік надрукаваны ў «Вышэйшай школе» ў 1980 годзе і, канешне, стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Да таго ж ён не поўны, як руска-беларускі, а дыферэнцыйны. Тыраж мізэрны — 3000 экземпляраў. Кніжка сама сябе не акупляе, стратная.

Вось і я: затраціў чатыры з паловай гады, каб зрабіць слоўнік. Карткі для картатэкі выпрошваў у бібліятэках, бы жабрак (з Добруша нават не адказалі на ліст з просьбай прадаць карткі). Маскоўскія бібліятэкі спецыяльных кніжак не высылаюць (кажуць, самім трэба). Але бог з ім, пераадолеў усё. А як зрабіць машынапісны варыянт? Трэба ж дзве машынкі — з іспанскім шрыфтам і беларускім. Калі на беларускі, як вядома, можна «перавыхаваць» машынку, то з лацінскім — праблема.

Ідэальным быў бы камп'ютэр, але...

Так, слоўнікаў няма, але ёсць людзі, што змаглі б іх зрабіць (я не маю на ўвазе інстытут замежных моў і яго высоканкваліфікаваных спецыялістаў). Трэба трошкі ім дапамагчы: зрабіць заказ, даць карткі, літаратуру, даведнікі; хаця б на ўмовах арэнды забяспечыць звычайнай машынкай з лацінкай ці даць магчымасць набыць яе. Чаму б не даваць аўтарам слоўнікаў камандзіроўку хаця б месяцы на тры ў краіну мовы?

Далей: працэс выдання кніжкі ад рукапісу да гатовай прадукцыі расцягваецца на гады. Трэба мець дробнатыражнае выдавецтва, якое б рабіла гэта за пару месяцаў.

Вось і вярнуўся я з «БелСЭ» дамоў абнадзеены, але з цэлай гарой праблем.

**М. БУСЕЛ.**
Светлагорскі раён.




**З 24 ПА 30 КРАСАВІКА**

**25 красавіка, 21.40**
**СТУДЫЯ «РЭЯ».**
**ЛІДЭР.** Музычнае шоу-конкурс.

**26 красавіка, 19.25**
**«РОДНАЕ СЛОВА»**
У выпуску — сустрэча са студэнтамі тэхналагічнага інстытута, якія выказалі жаданне атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Затым вы пазнаёміцеся з навуковым набыткам амерыканскага вучонага, доктара філалагічных навук Я. Пятроўскага, які заснаваў у ЗША беларускі дабрачынны адукацыйны фонд.
Ёсць у перадачы старонка «Культура слова»; развагі пра пашырэнне на Беларусі беластоцкай газеты «Ніва». Журналіст В. Мартыненка прапануе гледачам інтэрв'ю з віленскім мастаком А. Аблажэем. На пытанні гледачоў пра ролю эстраднай песні ў пашырэнні роднай мовы адказвае заслужаны артыст БССР Л. Барткевіч.
Вядучы — М. Станкевіч.

**26 красавіка, 21.50**
**«СПАДЧЫНА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма.
Расказ пра ўтварэнне Полацкага княства вядуць кандыдат архітэктуры А. Якімовіч, археолаг У. Ціішын, доктар гістарычных навук Г. Штыхаў, археолаг С. Тарасаў і пісьменніца В. Іпатава.

**26 красавіка, 23.25**
**ТВОРЫ Ф. ШАПЭНА ВЫКОНВАЕ Л. ЮШКЕВІЧ** (фартэпіяна).

**28 красавіка, 19.50.**
**«НА ПРЫНЁМАНСКІХ ПРАСТОРАХ»**
Літаратурна-мастацкі часопіс.

**28 красавіка, 20.20**
**«ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ»**
Беларускае тэлебачанне, распачынаючы новы цыкл перадач, вырашыла дапамагчы ўсім, хто хоча загаварыць па-беларуску.
Вусны курс «Гаворым па-беларуску» распрацоўвае пісьменнік, аўтар беларускага буквара А. Клышка. Цыкл гэты прызначаецца для тых, хто доўгі час з нейкай прычыны не карыстаўся беларускай мовай, падзабыў яе або зусім не ўжываў.

**29 красавіка, 11.15**
**«ТЭАТР НАД НЁМАНАМ»**
Гродзенскі абласны драматычны тэатр ва ўмовах эксперыменту.

**29 красавіка, 12.45.**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
Канцэрт Дзяржаўнага аркестра БССР. У праграме творы А. Залётнева, П. Альхімовіча.

**29 красавіка, 14.50**
**«МАСТАЦКІЯ ГАЛЕРЭІ»**
Скульптура і замкі Беларусі XVI—XVIII стагоддзяў. Вы пабываеце ў музеі старажытнабеларускай культуры АН БССР, дзе пазнаёміцеся з калекцыяй дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі.

**29 красавіка, 15.55**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**
Вершы А. Ахматавай у перакладзе Л. Паўлікавай.

**29 красавіка, 16.55.**
**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**
Адбудзецца сустрэча з гісторыкам і пісьменнікам М. Ермаловічам — аўтарам «Старажытнай Беларусі», доктарам юрыдычных навук А. Абрамовічам, пісьменнікам К. Тарасавым, кандыдатам філалагічных навук П. Садоўскім, навуковым супрацоўнікам МПІ імя Горкага В. Вячоркам. Супрацоўнікі беларускіх часопісаў пазнаёмяць з матэрыяламі на гістарычную тэму, якія стаяць у планах часопісаў.
Вядучая — Л. Паўлікава.

**30 красавіка, 19.20**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**
Вершы Р. Рыльке ў перакладзе В. Сёмухі чытае Г. Маляўскі.

**30 красавіка, 19.25.**
**«МАЎКЛІВАЯ».** Прэм'ера дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання пра мастачку-падлетка з Дзяржынска А. Прадзецкую. Аўтары сцэнарыя — М. Кір'яновіч і В. Каралёў. Кінарэжысёр-кінааператар — Т. Логінава.

**30 красавіка, 19.35**
**«АРТЫСТ І ЛЯЛЬКІ»**
Перадача падрыхтавана да 60-годдзя аднаго з вядучых артыстаў Дзяржаўнага тэатра лялек БССР У. Уласава.

**30 красавіка, 23.30**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00175 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.